
Не пакідайце Беларусі! ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ


Анатоль Ван ➔4

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 41 (29402) Год LVII Беласток, 7 кастрычніка 2012 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота Міколы ВАЎРАНЮКА

— У Беларусі я бачыў дух спаборніцтва адно на хакейных і футбольных матчах, але не бачыў яго ў палітыцы, — сказаў на паслявыбарчай канферэнцыі кіраўнік доўгатэрміновай місіі назіральнікаў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе Антоніо Мілашоскі. — У Беларусі я бачыў Мірскі замак, але не бачыў, каб выбары праходзілі згодна са стандартамі АБСЕ. Хаця прэс-канферэнцыя ў менскім гатэлі Кроўн-Пляза вялася на англійскай мове, гэтыя словы македонец выказаў па-руску. Каб яго лепш зразумелі.



# ГАЛАСАВАННЕ без выбару



* * *

Лагойск — раённы цэнтр 40 кіламетраў на поўнач ад Менска. Маляўнічыя ўзгоркі, як не ў Беларусі. Невыпадкова па-суседску, у Сілічах, пабудаваны горналыжны курорт. Захапляцца прыгажосцю наваколля перашкаджае працяглы дождж, які ідзе з самой раніцы ў нядзелю 23 верасня. Таму засяроджваемся на працы — стараемся як найхутчэй патрапіць на выбарчы ўчастак. У цэнтры дзесяцітысячнага мястэчка пытаем пра бліжэйшы групку моладзі, на вока ўжо з выбарчым правам. Тыя толькі пацiскаюць плячыма, маўляў, іх гэта зусім не цікавіць. Больш асвядомленая бабулька, што гандлюе чырвонабокімі яблыкамі з мяшка. Па яе ўказаннях трапляем у мясцовую школу, адкуль раздаецца вясёлая музыка. На сам канцэрт, аднак, спазняемся. Калі ўваходзім ва ўчастак, калектыў з мясцовае музычнае школы складае інструменты і звівае кабелі. Запрашаюць ехаць за імі на другі ўчастак, дзе будуць забаўляць выбаршчыкаў праз паўгадзіны.

Старшыня выбарчай камісіі кажа, што ўсё ідзе нармальна, толькі што былі ў іх міжнародныя назіральнікі, якія не мелі ніякіх заўваг. Датэрмінова прагаласавала каля 20 адсоткаў выбаршчыкаў (дарэчы, гэты паказчык тыповы для ўсяе краіны), сёння таксама ад раніцы ўрны запаўняюцца. Людзі ідуць па-адзіночку, сем'ямі. Натоўпу не відаць.

— Хачу, каб была справядлівасць, каб наш дэпутат не займаў дарма крэсла ў сталіцы, а годна рэпрэзентаваў наш рэгіён, каб заступаўся за нас, — выкладвае сваё крэда мужчына на ступеньках школы. І заяўляе, што галасаваў за незалежнага кандыдата таму, што ведае яго змалку, ведае ўсю яго сям'ю. — Яшчэ быў адзін добры кандыдат, але зняўся.

Тыдзень да выбараў сваіх кандыдатаў знялі Партыя БНФ і Аб'яднаная грамадзянская партыя. Таму на выбарчых участках плакаты з заклеенымі або замаляванымі партрэтамі ды інфармацыяй пра тых асоб.

— Толькі культура можа перамагчы цемру, — з канфідэнцыйнай усмешкай кажа мне мужчына сярэдніх гадоў у час эфектнага канцэрта, на які мы ўжо другі раз не спазніліся. — Мы яшчэ пераможам!

Як быццам у падтрымку яго слоў пара, якая заліхвацка танцуе пад гукі народных інструментаў, прытупвае пад вокліч „Жыве Беларусь"!

Канцэрт атрымаўся не столькі энергетычны, колькі родам з тэатра абсурду. Апрача згаданай пары танцораў, нашай здымачнай групы, міліцыянтаў і пажарнікаў, якія сачылі за парадкам ды камісіі амаль ніхто яго не чуў. Калектыў іграў і спяваў тварам да зачыненых дзвярэй, праз якія ў той час прайшлі лічаныя адзінкі.

Буфет таксама не карыстаўся поспехам. Гэты элемент беларускіх выбараў застаўся з таго часу, калі крамы пуставалі і багатыя буфеты з дэмпінгавымі цэнамі былі не абы-якім атракцыёнам.

— Сёння такія прадукты ў кожнай краме, — не скрывае свайго скептыцызму прадаўшчыца, адна ў памяшканні, дзе абсталявалі буфет. — І цэны там не вышэйшыя чым у мяне. Дык чаго тут людзі будуць шукаць.

* * *

Апазіцыйныя партыі не выпрацавалі супольнай стратэгіі перад апошнімі выбарамі. Праўда, яшчэ вясною найважнейшыя партыі дамовіліся, што пакуль за кратамі ўдзельнікі апошніх прэзідэнцкіх выбараў ды іншыя апаненты рэжыму, рыхтавацца да новай гульні паводле старых прынцыпаў няма сэнсу. Тым не менш кожны прыняў іншую тактыку. Беларуская хрысціянская дэмакратыя заклікала да бездыскусійнага байкоту, Партыя БНФ і Аб'яднаная грамадзянская партыя выставіла сваіх кандыдатаў, удзельнічала ў кампаніі, каб аб'явіць байкот перад самымі выбарамі, Партыя левых „Справядлівы свет" удзельнічала да канца.

Удзельнічаць хацеў таксама Аляксандр Мілінкевіч. Нягледзячы на яго асабістую актыўнасць, тры тысячы сабраных подпісаў (тры разы больш чым трэба), ягоную кандыдатуру не зарэгістравалі. Нічога не памянялі пазнейшыя аспрэчанні гэтага рашэння ні ў Цэнтральнай выбарчай камісіі, ні ў Канстытуцыйным судзе.

— Свабодныя выбары адзначаюцца тым, што людзі могуць свабодна выказвацца, арганізоўвацца і змагацца за выбарныя пасады, а гэтага мы не пабачылі падчас дадзенай выбарчай кампаніі, — сказаў на ўспомненай прэс-канферэнцыі Матэа Мекачы, каардынатар кароткатэрміновай місіі назіральнікаў АБСЕ.

Наяўнасць палітвязняў, няроўныя магчымасці вядзення перадвыбарчай агітацыі, арбітральнасць пры рэгістрацыі адных і нярэгістрацыі іншых кандыдатаў, закрыты механізм фармавання выбарчых камісій і адсутнасць якой-колечы магчымасці іх кантролю — гэта нязменныя балючкі беларускага палітычнага жыцця, далёкія ад дэмакратычных стандартаў. Тым не менш, Матэа Мекачы адзначыў і станоўчыя навінкі, напрыклад, магчымасць выступу кандыдатаў у сродках масавай інфармацыі.

Дзіяна Касцюковіч, якая балатавалася ад АГП у Берасці павінна была запісваца на мясцовым тэлебачанні як першая. Рэдактар сказаў, што ў такой форме яе выступ у эфір не пойдзе. Казалі ёй выкінуць тры словы; „байкот", „пікет" і ... „Лукашэнка".

* * *

Аграгарадок Гасцілавічы каля Лагойска. Выбарчая камісія вельмі гасцінная і беларускамоўная. Па-беларуску гаворыць нават міліцыянт, які, аказваецца, закончыў факультэт гісторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Гутарым пра супольную гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны. Старшыня сельсавета бярэ двух сяброў камісіі з урнай у сваю машыну „Жыгулі" і дазваляе ехаць нам з камерай за сабою.

Галіна Кішкурна 1927 года нараджэння галасуе ўпэўнена, як кажа, дзеля дастойнай будучыні дзяцей і ўнукаў:

— Каб яны не перажывалі ў жыцці таго, што я. Каб ім было лепш. Галоўнае, каб не бачылі вайны.

Бабуля дапытваецца, ці былі ўжо ў яе яшчэ старэйшай сяброўкі Марусі — 1919 года нараджэння. Яна ўжо некалькі разоў тэлефанавала ёй з пытаннем, ці прыяджала ўрна, ці пра яе не забыліся.

Па дарозе заязджаем яшчэ да Валянціны Цехановіч, якая хварэе і сама не магла паехаць у суседнюю вёску, дзе месціцца выбарчы ўчастак. Гаспадыня, убачыўшы камеру, спачатку прычасалася і толькі потым прыступіла да выканання грамадзянскага абавязку.

— І за каго ж мне галасаваць, — прызадумалася яна ўголас, — чатыры

працяг ☞10

9 770546 196000



# Грамадзянскі абавязак

Толькі што скончыліся чарговыя парламенцкія выбары на Беларусі, а ўражанне такое, што яны і не пачыналіся. Няма гучных заяў, што перамаглі ці то правыя плыні, ці то левыя сілы. Няма разваг пра стварэнне парламенцкіх кааліцый. Не падлічваецца колькі ў новым заканадаўчым органе прыхільнікаў дзеючай выканаўчай улады, а колькі супраціўнікаў.

Ніхто не аналізуе як павернецца сітуацыя, калі неўзабаве запрацуе новаабраны парламент. Яго ніхто нават не стараецца апратэставаць на шырыню палітычных і эканамічных поглядаў, ніхто не высвятляе, якія палітычныя ці эканамічныя прыярытэты ў новых абраннікаў народа. Не складаюцца прагнозы на тое, як цяпер можа павярнуцца знешнепалітычны вектар, і як гэта паўплывае на жыццё і дабрабыт таго чалавека, які прыйшоў або не пажадаў прыйсці на выбарчы ўчастак.

Нешматлікія рэшткі незалежнай прэсы стараюцца нешта напісаць пра ход кампаніі. Але неяк без асаблівага фанатызму. Яны бяруць інтэрв'ю ў апазіцыйных лідараў, стараюцца неяк прадоўжыць жыццё выбарчай тэматыкі праз аналітычныя артыкулы, падпісаныя вядомымі прозвішчамі. Але ўсё зводзіцца з большага да двух пытанняў. Адно з іх пра байкот. Ці адбыўся ён, калі так то ў якіх маштабах і хто спрычыніўся да яго правядзення. І другое — чаму адных палітвязняў выпускаюць, а ў другіх пагоршыўся рэжым утрымання.

Дзяржаўная ж прэса, апублікаваўшы лічбы агучаныя Цэнтральнай выбарчай камісіяй, зусім згубіла цікавасць да гэтай тэматыкі. Ці то журналістам дзяржаўных СМІ аніяк не цікавыя постаці народных любімцаў, ці то гэтая ўсенародная любоў не такая ўжо моцная. Зрэшты, калі быць шчырымі, то дзяржаўная прэса і па ходзе выбарчай кампаніі не асабліва ведала што пра яе пісаць. Фантазіі аўтараў нешматлікіх выбарчых матэрыялаў рэдка заходзілі за нібыта выпадковыя сустрэчы і размовы з калёс акурат з тымі прэтэндэнтамі на дэпутацкія месцы, за якіх і былі падлічаныя галасы выбарцаў. Умоўна такія беспамылковыя сустрэчы можна хіба назваць надзвычай абвостранай журналісцкай інтуіцыяй прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ. Зрэшты, недзяржаўныя журналісты таксама валодаюць не меншай інтуіцыяй і задоўга да выбараў ужо агучылі прозвішчы тых цікавых чалавек, якіх беларускі электарат не падвядзе ані ў якім выпадку. І не памыліліся.

А што ж самыя народныя абраннікі? Не чуваць іх шчаслівых воклічаў, што яны перамаглі ў чэснай бітве з апанентамі. Не заўважныя іх падзякі шматлікім, па версіі ЦВК, абнадзееным выбаршчыкам. Не бягуць і не скачуць ім на каркі пад маланкавыя бляскі фотаўспышак і святло відэакамер усхваляваныя бацькі, дзеці, сябры і калегі па працы. Не падбягаюць іх спадарожніцы жыцця з воклічамі: „Каханы, я верыла ў цябе і ў тое, што ты пераможаш! Ты іх пераканаў! Людзі табе паверылі!". Ну і зразумела, што ніхто з пераможцаў у экстазе ад нечаканай і выпакутаванай перамогі не заявіў сваім выбаршчыкам: „Я не падвяду вас! І гэта толькі пачатак маёй палітычнай кар'еры. Я перакананы, што вы, гэтак жа як падтрымалі мяне зараз, падтрымаеце мяне і на прэзідэнцкіх выбарах".

Можа гэта такі новы від дэпутацкай сціпласці, прыдуманы ў Беларусі, і — як усё беларускае — гатовы да экспарту ў братнія па адзінай мытнай прасторы краіны. А самыя народныя абраннікі толькі крыху перавядуць дух і кінуцца апантана рэалізоўваць свае перадвыбарчыя праграмы гэтак жа чэсна, як праявілі сябе ў ходзе ўсёй выбарчай кампаніі, ад вылучэння іх кандыдатур працоўнымі калектывамі і ажно да падліку і абвяшчэння вынікаў выбараў.

Ды і сапраўды, навошта здалася тая заходняя паслявыбарчая мітусня. Усе выканалі свае ролі і могуць ціхенька, нізка апусціўшы насы, з пачуццём выкананага абавязку моўчкі вярнуцца да сваіх штодзённых спраў. І кандыдаты, і дэпутаты, і выбаршчыкі, і сябры камісій. Да новых выбараў. А пасля іх зноў усіх паклічуць чарговы раз выканаць свой грамадзянскі абавязак. І кандыдатаў, і дэпутатаў, і камісіі, і выбарцаў...

Праўда, гэтым разам кажуць, што выбарцы крыху падвялі і не асабліва спяшаліся выканаць свой грамадзянскі абавязак. У адрозненні ад руплівых камісій і абраных ужо дэпутатаў.

Віктар САЗОНАЎ



# Лета 2012 года

З прычын майго пажылога ўзросту і дабрадзействаў старой пенсіённай сістэмы я маю многа вольнага часу. Гэты вольны час я праводжу ў кампаніі тэлевізара. Гляджу я ў асноўным свае польскія праграмы, рускія, беларускія і ўкраінскія. Гляджу і разважаю: куды ж так паспешліва прэцца наша краіна, наш цэлы вялікі рэгіён ды і свет цэлы?!. Адным словам — філасофствую. Для тых, хто не ведае ці забыўся чым займаюцца філасофы, прывяду тут украінскую народную версію дэфініцыі паняцця „філасаф", бо гэта версія мне найбольш падабаецца: „Хвілософ це така людина, яка нічого не робить тільки думає. І думає не абы-як, а приблизно". Вось так менавіта і думаю-гадаю...

Прароцтвы розных вешчуноў і варажбітаў на 2012 год былі ў асноўным ненайлепшыя, бо і крызіс, і прыродныя анамалії-катаклізмы, і войны, і тэракты. І нават каляндар племя майя прадказвае, што 21 снежня 2012 года мае быць апошнім днём сучаснай эры, якой споўніцца якраз 5125 год, бо столькі, падобна, і мае яна трываць. Што мае быць далей, каляндар майя, на жаль, маўчыць. Верыць аднак усім такім гаданням не варта. Лепей давайце пастараемся пажыць і пабачыць самі...

І вось ужо першае паўгоддзе гэтага няпростага 2012 года за намі. Прыглянься што цікавага і нецікавага адбылося за гэты час у нас і нашых бліжэйшых суседзяў.

На пачатку сёлетняга года было ў нас надвор'е цёплае і бясснежнае, незімовае адным словам. І толькі ад праваслаўнага Вадохрышча тэмпература пачала рэзка паніжацца і стала падсыпаць снегу — і нарэшце наступіла халодная і снежная зіма. Пад канец лютага тэмпература зноў пачала расці аж да плюсавай, а снег сплываць вадой і балотам. Канец красавіка і пачатак мая былі цёплымі, нават вельмі, і сухімі. Канец мая халаднаваты, пачатак чэрвеня халодны і мокры, потым пацяплела. Такім зменлівым у кліматычным сэнсе было і ўсё лета: то халаднавата, то цёпла, то проста спякотна...

Найбольшай і найцікавейшай імпрэзай сёлетняга летняга сезона было, канешне, гэтае самае „Еўра-2012". Падумаць толькі, яно нарэшце адбывалася ў нас. Таму і было мноства шуму, крыку, радасці і смутку. Народ проста сыходзіў з розуму на футбольным пункце. Кожная каманда і кожная краіна пераможцамі бачыла толькі сваіх. Пачаліся гаданні, варажэнні, заклінанні на карысць сваіх футбалістаў і каманд. Выкарыстоўвалі для гэтага слана, свінку, курачку і іншых звяроў і птушак. Не ўступалі замежнікам і нашы балельшчыкі-фанаты. Многія з іх лічылі і гаварылі, што менавіта наша каманда стане чорным канём ці белаю варонаю гэтага чэмпіянату. Каманда наша аднаўлена, падрыхтавана і з некалькімі футбольнымі зоркамі ў ёй. Пашанцавала нам і з групай — была яна найслабейшая з усіх груп. І пачалося. Футбольная атмасфера адчувалася не толькі на стадыёнах, на вуліцах, але і ў кожнай сям'і. Нават мы з бабкай, як ніколі дасюль, сядзелі начамі перад тэлевізарам і аглядалі ўсе матчы, перажывалі, аналізавалі іх, спрачаліся, нават піва папівалі, як сапраўдныя балельшчыкі. Аглядалі матчы нашы дзеці і зяць. Найбольш, аднак, жывымі, імпульсіўнымі балельшчыкамі былі нашы малыя ўнукі. Нават двухгадовая дзяўчынка патрабавала абмаляваць ёй твар фарбамі і крычала „Польска гоя!". У найтруднейшай сітуацыі аказаўся я, бо я балеў за польскую і расійскую каманды, а яны апынуліся ў адной групе і адразу паміж імі ўзнік канфлікт інтарэсаў. З маёй ім падтрымкі нічога не атрымалася — абедзве прарэзалі свае матчы і нават не выйшлі з групы. Паразу іх я моцна перажыў, але потым адумаўся і рашыў, што так ім і трэба, бо вельмі ж хваліліся сабой, задзіралі насы, нават пабіліся адны з другімі. А няскромнасць і хвалюнства павінны быць пакараны.

І так, польская каманда заняла апошняе месца ў найслабейшай групе ўжо на першым этапе спаборніцтва... і адпала. Расійская каманда толькі мінімальна яе апярэдзіла і таксама з трэскам адпала. Здавалася б, асталося толькі плакаць і наракаць. І расійскія балельшчыкі, напрыклад, крыху паплакалі, панаракалі, а потым упалі ў злосць і разагналі кебенячым усё сваё футбольнае начальства. І правільна: няма добрага футбола — непатрэбнае і высакаплатнае начальства. Палякі не вельмі плакалі і не разагналі свайго футбольнага начальства, хаця раней і абяцалі зрабіць гэта. Аказалася, што не выйграўшы ніводнага матча і прайграўшы з Чэхіяй, а значыць і з усім „Еўра-2012", мы штосьці аднак і выйгралі для сябе. Гэтым сваім пройгрышам мы пагрузілі ў футбольны нябыт Расію. А такое палякаў заўсёды цешыць...

Адным словам, відовішчаў нам гэтым летам хапала.

Васіль САКОЎСКІ

**Вачыма еўрапейца**

# Брама ў культуру



Гэта адна з найбольшых культурных інвестыцый адобраных Еўрасаюзам і зрэалізаваных на яго сродкі, пры вялікім удзеле Міністэрства культуры і падляшскага самаўрада. Каштавала яна ад пачатку пабудовы (у лютым 2006 г.) 220 мільёнаў злотых. Яе плошча — 16 тысяч квадратных метраў. Ёсць тут 771 месца ў канцэртнай зале, 130 у камернай і 550 у прылеглым амфітэатры. Штогод мае яна паглынаць 25 мільёнаў злотых. Гаворка пра Падляшскую оперу і філармонію — Еўрапейскі цэнтр мастацтва, дзейнасць якой у новым гмаху са шкла і алюмінію інаўгуравалі 28 верасня. Інаўгурацыйнае свята працягвалася тры дні. У надзвычай узнёслай атмасферы на пачатак опернага сезона двойчы рэкамендавалі „Страшны двор" Станіслава Манюшкі (дакладна ў 147 гадавіну варшаўскай прапрэм'еры), польскую прапрэм'еру музычнага спектакля „Корчак" Крыса Уільямса (адзін са спектакляў спалучаны быў са спецыяльнай, Корчакаўскай сесіяй, сарганізаванай з нагоды Года Януша Корчака, устаноўленага Сеймам). Абодва прадстаўленні ставіў дырэктар ПОіФ Раберта Скальмоўскі і да абодвух сцэнічнае афармленне праектаваў Павел Дабжыцкі, адзін з самых таленавітых польскіх сцэнографаў. На пачатку адыгралі фанфару, спецыяльна на гэтую нагоду напісаную Ежы Максымюком і выкананую пад яго палачкай. У час папярэджваючай урачыстасць прэс-канферэнцыі Раберта Скальмоўскі сказаў:

— Гэта прэзент *ziomala dla ziomali* (маэстра Максымюк жыў у Беластоку — М. Х.) з разбудаваным ударным інструментарыем.

На інаўгурацыі было шмат гасцей, а сярод іх віцэ-міністры культуры Беларусі і Літвы, пасол Беларусі ў Варшаве і Польшчы ў Мінску. Гмах адкрылі і дзейнасць оперы інаўгуравалі ўдарам у гонг падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі і міністр культуры Багдан Здраеўскі. З гэтай нагоды Мацей Клімчук, прэзідэнцкі дзяржсакратар зачытаў ліст ад Браніслава Камароўскага. Прэзідэнт РП напісаў м.інш: „Беласток гэта горад пагранічча культур, пункт сустрэч Усходу з Захадам, грамадзян краін усходняй Еўропы і прыбалтыйскіх краін, прастора супрацоўніцтва нацыянальных меншасцей і разнародных асяроддзяў. Са свядомасці, што нішто так не садзейнічае інтэграцыі як культура, нарадзілася ідэя, мара аб стварэнні ў вашым горадзе сапраўднага шматкультурнага цэнтра для рэгіёна і ўсяе краіны".

У сваю чаргу міністр культуры і нацыянальнай спадчыны адзначыў:

— З майго пункту гледжання гэты праект з'яўляецца ключавым не толькі для Беластока, для Падляшша, усяе краіны, але і важным для ўсяго свету. Сто пяцьдзесят гадоў таму, больш-менш у такі самы час, тут, у Беластоку, праклалі чыгунку з Варшавы ў Пецярбург. Быў гэта 1862 год. Адчынілі гаспадарча-эканамічную браму. Сёння адкрываем браму для культуры. Для абмену паміж Літвой, Беларуссю, Польшчай, Украінай, Нямеччынай, Еўропай. Прыгожую браму. Вельмі важную.

Сярод гасцей інаўгурацыйнага вечара, з якімі я размаўляў, была старшыня сеймавай камісіі культуры і сродкаў масавай інфармацыі Івона Слядзінская-Катарасінская:

— Гэты Еўрапейскі цэнтр культуры, так як сказаў спадар міністр Здраеўскі, з'яўляецца такой брамай Польшчы на Усход ды на Захад і можа быць сімвалам Усходняга партнёрства, прытым значна шырэй успрыманага, чым сёння пра яго гаворым. Культура гэта знакаміты носьбіт супрацоўніцтва, развіцця, сяброўства. Павінна быць крыху далей ад палітыкі. Калі гаворым пра цяперашнія кантакты паміж Польшчай і Беларуссю, гэта культура з'яўляецца знакамітай для іх прасторай. На момант можна забыцца, хто кіруе Беларуссю, а ўзаемна думаць аб культурных здабытках, аб традыцыі, аб мастаках. Думаю, што ў рэпертуары гэтай оперы можна сягаць не толькі па наш айчынны рэпертуар, але якраз і нашых суседзяў.

Аб прэм'ерных пастаноўках і іншых дэталях інаўгурацыі — у наступных нумарах „Нівы".

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Не пакідайце Беларусі!

Дзень пасля выбараў у ніжэйшую палату беларускага парламента — Палату прадстаўнікоў і дзень да пяцідзесятых угодкаў з дня нараджэння зняволенага ў папраўчай калоніі ў Бабруйску праваабаронцы Алеся Бяляцкага, у варшаўскай сядзібе Польскага прэсавага агенцтва (ПАП) адбыўся беларускі круглы стол. Прысвечаны ён быў ацэнцы выбараў і выбарчай кампаніі, сітуацыі ў Беларусі пасля выбараў ды беларускай паслявыбарчай перспектывы ў еўрапейскім кантэксце. Сустрэча была сарганізавана па ініцыятыве еўрадэпутата Марка Мігальскага.

У датэрміновым галасаванні і ў галоўным выбарчым дні (23 верасня) за 110 месц у ніжэйшай палаце беларускага парламента — Палаце прадстаўнікоў канкурыравалі 293 кандыдаты, у тым ліку 46 прадстаўнікоў апазіцыі (не ўвайшлі ў палату), хаця найважнейшыя апазіцыйныя партыі збайкатавалі выбары і заклікалі да байкоту. Згодна з данымі Цэнтральнай выбарчай камісіі ў Мінску, яўка на выбарах склала 74,3 працэнта. Назіральнікі ад АБСЕ ў выдадзенай пасля выбараў заяве сцвердзілі: „Выбары ў Беларусі не былі ані свабоднымі, ані бесстароннімі. Свабодныя выбары азначаюць, што людзі могуць свабодна выказваць погляды, арганізавацца і балатавацца на пасаду. У час гэтых выбараў гэтага не было”.

Марэк Мігальскі яшчэ да пачатку канферэнцыі сказаў „Ніве”:

— Тым адрозніваецца дэмакратыя ад таго, што адбываецца ў Беларусі, што прынцыпы прадбачваюцца, а вынікі — не. У беларускі парламент дасталіся тыя, што мелі там апынуцца па волі Лукашэнкі. Гэтыя выбары ад пачатку і да канца былі недэмакратычнымі. З волі Лукашэнкі аддалілі Беларусь ад Еўрасаюза. Некаторыя жартавалі, што павінны мы гэтую канферэнцыю зрабіць не дзень пасля выбараў, а на некалькі дзён да іх, бо і так было вядома, што адбудзецца.

Успамінаючы аб мэтах канферэнцыі, сцвердзіў:

— Хочам задумацца над тым, што ЕС, у тым ліку Польшча, можа зрабіць, каб сітуацыя ў Беларусі папраўлялася, над тым, якія ёсць слабыя пункты лукашэнкаўскага рэжыму, як дапамагаць тым, што змагаюцца за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі. ЕС прабаваў ужо практычна ўсяго: і палітыкі бізуна, і палітыкі перніка. Толькі што не спрабаваў ані адной з гэтых палітык утрымаць у даўжэйшай перспектыве. Не можа быць так, што Лукашэнка гуляе намі. Мая прэтэнзія да еўрасаюзных палітыкаў такая, што не ўмеюць яны распрацаваць доўгатэрміновай і супольнай палітыкі ў адносінах да дыктатуры, дазваляючы Лукашэнку трымаць сваіх грамадзян у якасці закладнікаў. Немагчыма размаўляць з кімсьці, хто няволіць людзей толькі таму, што мелі адвагу выказаць сваю думку, сказаць слова праўды ці ўзняць бел-чырвона-белы сцяг.

Яшчэ да пачатку канферэнцыі спыталіся мы ў Наталлі Пінчук, жонкі Алеся Бяляцкага — старшыні Праваабарончага цэнтра „Вясна”, які прыгавораны да чатырох з паловай года папраўчай калоніі, пра сітуацыю мужа:

— Алесь не так часта як раней, калі быў зняволены на Валадарцы, падтрымлівае перапіску са мною і іншымі. Дае, усё ж, знак аб сабе. Дэталяў, аднак, не апісвае. Вядома, лісты цэнзуруюцца. Аб яго стане здароўя не маю ніякай інфармацыі. Час ад часу звоніць і па голасе магу ацаніць, як ён сябе адчувае: ці кашляе, ці мае заложаны нос. Інфармацыі, якія я атрымала раней і некаторыя дакументы сведчаць, аднак, аб тым, што меў праблемы са здароўем. Ад яго самога скаргаў наконт здароўя я аднак не мела. Маю інфармацыю, што Алесю ствараецца складаная псіхалагічная сітуацыя. Забараняюцца яму кантакты з іншымі зняволенымі, а тыя са зняволеных, што прабавалі падтрымаць з ім больш прыяцельскія кантакты, самі караліся турэмнай адміністрацыяй. Не спадзяюся, што выпусцяць яго раней (Алесь Бяляцкі сказаў, што не будзе прасіць любой формы памілавання — М. Х.).



Жанна Літвіна



Наталля Пінчук, жонка Алеся Бяляцкага атрымала на яго імя на мінулым тыдні дзве ўзнагароды: Прэмію дзяржздэпартаменту ЗША ў галіне правоў чалавека і прэмію Леха Валенсы

Якраз Наталля Пінчук прыняла ўдзел у першай дыскусіі круглага стала. Побач яе селі Ірына Багданава, заснавальніца грамадскай кампаніі Free Belarus Now, сястра кандыдата на прэзідэнта Беларусі Андрэя Саннікава (зволнены з турмы датэрмінова ў красавіку; быў прыгавораны да пяці гадоў), Марына Адамовіч, жонка кандыдата на прэзідэнта Міколы Статкевіча (асуджаны на шэсць гадоў; прабывае ў карнай калоніі строгага рэжыму), Алёна Каваленка, жонка Сяргея Каваленкі (яго выпусцілі на свабоду 26 верасня з магілёўскай калоніі пасля просьбы пра памілаванне, накіраванай Аляксандру Лукашэнку), ды Дзмітрый Бандарэнка, былы палітвязень, лідар грамадзянскай кампаніі „Еўрапейская Беларусь”. Згодна з інфармацыямі, перададзенымі мадэратаркай гэтай часткі сустрэчы Агнешкай Рамашэўскай-Гузы, дырэктаркай тэлеканала Белсат, прымаецца, што ў Беларусі цяпер налічваецца чатырнаццаць палітвязняў, хаця, як прызналася, іхні лік фактычна цяжкі для вызначэння, паколькі некаторыя з іх зняволены на непалітычных, а чыста крымінальных падставах.

Дзмітрый Бандарэнка:

— Сілавыя вырашэнні сталі наступаць ад моманту, калі пасля першага тура прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе аказалася, што павінна дайсці да другога тура і Аляксандр Лукашэнка павінен змагацца з Андрэем Саннікавым.

Заклікаў, каб не асуджаць палітзняволеных, якія падпісалі просьбы аб звальненні і выйшлі на свабоду, хаця б па прычыне таго, што КДБ шантажуе іхнія сем'і. Меркаваў:

— Лукашэнізацыя дайшла ўжо ў Расіі і на Украіну. Праблема з Лукашэнкам гэта праблема на толькі Беларусі і Польшчы, якая з'яўляецца заступніцай Беларусі ў Еўропе. Гэта сур'ёзная міжнародная праблема. Пакуль, аднак, няма імкнення, каб яе вырашыць. Механізм яе вырашэння павінен быць такі, як у Польшчы за Ярузельскага.

Ірына Багданава ўспамінала аб сітуацыі брата і яго сям'і:

— Ягоная жонка не можа выехаць з Мінска, нават з малым дзіцём. Кожны дзень прыходзіць да яе міліцыя, нават ноччу.

Таксама ацэньвала сітуацыю ў Беларусі:

— У нас ёсць тысячы палітвязняў, а не толькі чатырнаццаць. Палітычныя сядзяць за сваю эканамічную дзейнасць. Уся Беларусь у заключэнні. Дзмітра Бандарэнку і Андрэя Саннікава выпусцілі дзякуючы еўрапейскім рэзалюцыям. Не пакідайце Беларусі! Трэба змяніць мышленне, што Беларусь гэта чорна дзірка. Каб памагчы Беларусі трэба, каб Еўропа ў адносінах да яе рэжыму мела цвёрдую і адназначную палітыку.

Марына Адамовіч:

— Мой муж зняволены па рашэнні суда на нявызначаны час. Дваццаць тры гадзіны прабывае ў камеры, адну гадзіну мае на прагулку. У дзесяціметровай камеры сонца свеціць хвіліну на адзін метр. Раз у год ён можа бачыцца з сям'ёй. Знаходзіцца ў турэмнай ізаляцыі, без кантакту з іншымі зняволенымі. Раней сядзеў з псіхічна хворым чалавекам, хворым туберкулёзам, пасля з хворым СНІДам. Прымушаюць яго, каб звярнуўся з просьбай пра памілаванне.

Пераконвала:

— З нашым рэжымам нельга дамаўляцца, а адзінае вырашэнне — сілавое. Беларускаму народу патрэбная міжнародная салідарнасць і націск на рэжым.

Наколькі Ірына Багданава, Наталля Пінчук і Марына Адамовіч гаварылі адносна спакойнымі галасамі і досыць упэўнена, дык голас Алёны Каваленкі што і руш ламаўся, калі расказвала пра лёс мужа:

— Яго галадоўка мела паказаць, што Беларусь не мае альтэрнатывы. Мой муж пазбаўлены працы, не паддаюць яго ўжо лекарскім абследаванням. Міжнародная супольнасць павінна прызнаць гэтыя парламенцкія выбары за сфальшаваныя. Калі свет будзе бачыць у нас нейкую альтэрнатыву, дык размовы павінны пачацца толькі пасля звальнення палітвязняў.

Другую дыскусію пачала Жанна Літвіна, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў:

— Свядомасць цэлай нашай нацыі гэта прадукт прапагандысцкай машыны: гэта адказ, чаму ў нашым грамадстве няма рэакцыі на ціск, беспрэцэдэнтныя інцыдэнты. Кожнае палітычнае выступленне беларусаў, пражываючых па-за межамі, павінна пачынацца ад тэмы палітвязняў. Дзве задачы стаяць перад сродкамі масавай інфармацыі: перадаваць інфармацыю аб тым, што адбываецца ў Беларусі, на саму Беларусь ды на міжнароднай арэне.

Расказвала:

— У нас кантралюецца ўсё. Кожная асоба з грамадзянскай супольнасці, якая не праяўляе лаяльнасці ў адносінах да ўлады — пад кантролем. Анак не магу згадзіцца, што ўсё ў нас кіруецца КДБ, што дэмакратычныя структуры кіруюцца КДБ (...). Масавых дыскрэдытацый апанентаў, хаця б у параўнанні з прэзідэнцкімі выбарамі, у гэты раз у сродках масавай інфрамацыі ў Беларусі не было. Улада была зацікаўлена, каб апазіцыя, тая „пятая калона”, да канца прымала ўдзел у выбарах (...). СМІ не былі ў гэты раз платформай, дзе партыі, кандыдаты прадстаўлялі свае праграмы. „Рэвалюцыйным” крокам былі гэтак званыя выбарчыя дэбаты. Не былі яны патрэбныя ў першую чаргу самім кандыдатам, бо ў нашай краіне няма публічнай палемікі, палітычнай канкурэнцыі. Цэнзураваліся ўсе заклікі да байкоту выбараў.

Жанна Літвіна ўспамінала аб затрыманні міліцыяй семярых журналістаў, якія прымалі ўдзел у адной з перадвыбарчых акцый кампаніі „Гавары праўду” і аб журналістах, супрацоўнікаў якіх адбываюцца крымінальныя справы, прыпыненыя на час выбарчай кампаніі. Пералічыла гродзенскага карэспандэнта „Выбарчай газеты” Анджэя Пачобута (пагражае яму пяць гадоў турмы), нештатнага журналіста „Віцебскага кур'ера” ды Антона Сурапіна, які змясціў на інтэрнэтных сайтах здымкі з г.зв. дэсанта шведскіх мішак. Заклікала міжнароднае грамадскае меркаванне, асабліва прадстаўнікоў СМІ, да салідарнасці з імі:

— Прыцхіне справа выбараў і пачнецца разборка з журналістамі (...). Афіцыйна з замежжа прыехала асвятляць кампанію 350 журналістаў. Першы раз мы аднак сутыкнуліся з фактам, што нават маючы акрэдытацыю, а без яе дзейнасць журналіста ў Беларусі забаронена, не было гарантыі, што журналісты будуць упускацца ў краіну (...). Нічога не зменіцца ў нашай краіне, ка-

працяг ☞ 10

## Жывыя гукі „Вербіцы”

У верасні канчаецца лета і завяршаюцца фэсты ў гмінных амфітэатрах. Сёлета было многа канцэртаў у Нараўчанскай гміне. Вечарам, 20 жніўня, на нараўчанскім стадыёне пасля навальніцы нечакана выступіла з багатай праграмай „Вербіца” з Мінска.

У рэпертуары гэтага мастацкага калектыву былі беларускія народныя песні, якія з захапленнем слухала нараўчанская публіка. Артыстаў з Беларусі тут вельмі любяць, бо яны спяваюць і танцуюць пад жывы акампанемент. Трэба адзначыць, што сябры „Вербіцы” — аматары, але граюць і спяваюць як прафесіяналы. Падрыхтавалі яны таксама некалькі папулярных польскіх песень, у іх ліку „Szła dzieweczka” і „Hej, sokoły”, якія ахвотна падпявалі слухачы і шчыра апладзіравалі. Халаднаваты вечар рабіўся прыемным на душы. Дасканала граў на баяне кіраўнік „Вербіцы”, раздаваліся чароўныя гукі цымбалаў.

Надзвычай сімпатычным было тое, калі спевакі сышлі са сцэны і запрасілі да вальса сядзеўшых у першых радах нараўчан. Вось так нараджаецца сяброўства, дружба. Канцэрт надоўга застанецца ў памяці нараўчан. Прайшло некалькі тыдняў, а я яшчэ чую жывыя гукі „Вербіцы”.

## У грыбах

Лета здалося сухім і ў лясах доўга не было грыбоў. Высыпалі яны ў трэцяй дэкадзе жніўня. Кожны, хто не ляніўся, мог пайсці ў лес і назбіраць грыбоў. Трэба толькі асцерагацца зуброў. Аднаго жыхара Нараўкі злосны зубр узяў на рогі і патурбаваў; чалавек апынуўся ў шпіталі. Але хадзіць за грыбамі варта. Лепшыя грыбнікі з Альхоўкі знаходзілі па дзвесце баравікоў.

Спажывецкія тавары даражэюць, а грыбы танныя. Плацяць за іх столькі, што і дзесяць гадоў таму. У пункце скупкі першы сорт баравікоў каштуе дзесяць злотаў за кілаграм, за другі даюць чатыры злоты, а за трэці толькі тры. За кілаграм лісічак плацяць дванаццаць злотаў. Людзі гавораць, што калі пойдзе дождж, то і пазней таксама будуць грыбы.

На грыбах многа не заробіш, але важна хадзіць па лесе каб падыхаць багатым у кісларод паветрам і набрацца сілы.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Перастараліся

У цэнтры Беластока мелі перабудаваць скрыжаванне алеі Пілсудскага з вуліцай Сянкевіча. Тут кожны дзень найбольшы рух. Улады горада задумалі будаваць падземны пераход. Сёлета мелі распачаць пабудову. Але пакуль што хуценька ліквідавалі ўсе кіёскі каля вышэйзгаданага скрыжавання. А быліж тут, між іншым, газетна-часопісныя кіёскі „Рух” (у адным з іх заўсёды ў продажы была „Ніва”), а таксама крамы з хлебабулачнымі вырабамі, вяндлінай, мясам, малаком, сырамі, яйкамі, фруктамі ды напіткамі і марожаным. А яшчэ колькі кветак было тут у продажы! Была вялікая выгада рабіць тут пакупкі. А зараз усё знікла адтуль быццам камфора. Па дзвюх плошчах адно вецер гуляе пясочкам.

Навошта тады было спяшацца з ліквідацыяй гандлёвых пунктаў, калі перабудову скрыжавання адтэрмінавалі на год? Шмат прадаўцоў апынулася без працы. Набегаешся, калі прыйдзецца зрабіць пакупкі. А раней усё было на адным месцы. **(яц)**

# Чалавек культуры Анатоль Вап і стыпендыяты



Дырэктар Анатоль Вап (усярэдзіне), дырэктар Сяргей Лукашук і інструктар Альжбета Фіёнік

■ **Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

З дырэктарам Дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатолем Вапам спаткаліся 17 верасня ў Бельскім доме культуры, між іншым, вучні бельскіх школ — «тройкі» і белліцэя, што прыйшлі на ХХ спатканне ў рамках праекта «Твары вядомыя і невядомыя», які рэалізуе дом культуры. Юбілейнае мерапрыемства з гэтага цыкла распачалося вакальным выступленнем Караліны Пажазінскай і Эміліі Шульц, якія займаюцца ў Бельскім доме культуры і з'яўляюцца стыпендыяткамі маршалка Падляшскага ваяводства. Была таксама запрэзентаваная мастацкая праца іншага стыпендыята — Крыстыяна Веснюка, які таксама рэалізуе свае зацікаўленні ў БДК. Прэзентацыя дасягненняў бельскіх стыпендыятаў была невыпадковая, бо маглі яны рэалізаваць свае зацікаўленні дзякуючы дапамозе Маршалкоўскай управы, прадстаўніком якой з'яўляецца дырэктар Анатоль Вап. Заахвочваў ён бельскіх белліцэістаў і белгімназістаў выступаць з праектамі на атрыманне маршалкоўскай стыпендыі. Такія праекты могуць дасылаць у Маршалкоўскую ўправу да канца кастрычніка ўсе жыхары Падляшскага ваяводства, аб чым напамінаем нашым чытачам.

— Я заахвочваю разгортваць свае зацікаўленні і падаваць нам заявы з цікавымі ідэямі на атрыманне стыпендыі падляшскага маршалка. У дакументах, якія трэба дасылаць да нас, няма многа бюракратыі. Свае праекты трэба старацца апісаць як мага найбольш змястоўна. Стыпендыі прызначаюцца не толькі асобам, якія маюць ужо ўдакументаваныя поспехі, але таксама і асобам, якія толькі пачынаюць разгортваць свае зацікаўленні. Самае важнае, каб вашыя задумы былі цікавымі, а могуць яны тычыцца розных дзялянак культуры — мастацтва, літаратуры, фатаграфіі ці фільма. Мы пачыналі ад 30 стыпендыятаў у год, а ў гэтым годзе прызначылі ажно 60 стыпендый. Намагаемся памагаць разгортваць зацікаўленні, бо калі людзі будуць разгортваць свае таленты, будзе развівацца таксама нашае ваяводства, — заявіў дырэктар Анатоль Вап, адказваючы на пытанні публікі. Гутарка з госцем распачалася ад інфармацыі аб яго жыцці, пасля былі расказы аб яго зацікаўленнях і працы. Сваё ранняе дзяцінства Анатоль Вап правёў у Скупаве Нараўчанскай гміны, адкуль выводзіцца яго бацька. Пазней пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Бельск-Падляшскі, дзе вучыўся ў «тройцы» і закончыў механічны ліцэй.

— Я добра ўспамінаю вучобу ў бельскай «тройцы», дзе першым маім дырэктарам быў Сяргей Лукашук (пазней стаў дырэктарам БДК — А. М.). Была гэта школа вельмі прыязная як для дзетак, так і для бацькоў, а на мастацкія занняткі хадзіў я ў дом культуры, дзе рысаваў і маляваў. Памятаю, як будаваўся будынак дома культуры і мы бегалі тут з сябрамі, бо жыў я непадалёк ад гэтага месца. Зімой мы на лыжах, а нават і на каньках з'язджалі з Лысай горкі, чаго не раю рабіць цяпер, бо горка лічыцца гістарычным помнікам. У час канікулаў я часта пабываў у сваіх бабуль у Скупаве або ў Крыўцы Нараўскай гміны — мамінай вёсцы. Хаця большасць маіх сяброў пайшла вучыцца ў бельскі белліцэй, я рашыўся працягваць адукацыю ў механічным ліцэі, бо не прападаў за матэматыкай, фізікай, ці біялогіяй, а ў белліцэі трэба было б многа вучыцца па гэтых прадметах. Затое я вельмі любіў гісторыю і ў механічным ліцэі было многа часу, каб чытаць гістарычныя кніжкі. З гэтай школы засталіся ў мяне добрыя ўспаміны аб настаўніках і таксама ўмеласці па тэхнічным рысунку, якія выкарыстоўваў рысуючы пазней фартыфікацыйныя аб'екты ў маіх гістарычных працах, бо я перш за ўсё цікаўлюся вайсковай гісторыяй. Дзякую маме, што не шкадавала грошай на гістарычныя кніжкі, якіх я многа купляў і чытаў у школьныя і студэнцкія гады, — расказваў Анатоль Вап, які дадаў, што і зараз утрымлівае кантакты з сябрамі з бельскіх школ і з настальгіяй успамінае школьны час, калі жыў у Бельску-Падляшскім. Сям'я ягонай мамы жыла ў Брэсце і, пачынаючы з шасцігадовага ўзросту, ён практычна штогод ездзіў у гэты беларускі горад і захапляўся фартыфікацыямі Брэсцкай крэпасці, якая з'яўляецца адным з самых цікавых прыкладаў ваеннай архітэктуры. Пасля Анатоль Вап закончыў вучобу на гістарычным факультэце Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку і зараз кіруе Дэпартаментам культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку. З'яўляецца ён аўтарам кніжкі «Крэпасць Асавец: нарыс гісторыі», аб якой таксама гаварылася ў час спаткання.



— Можна сказаць, што спадар Анатоль Вап, гэта найважнейшая асоба па справах культуры ў Маршалкоўскай управе, — заявіла вядучая сустрэчу інструктар па тэатральнай дзейнасці БДК Альжбета Фіёнік.

Сабраныя паглядзелі прамацыйны фільм аб Падляшскім ваяводстве, у якім былі, між іншым, сюжэты аб беларускай культуры і праваслаўным веравызнанні ды відэакліп з фрагментамі гістарычнай рэканструкцыі «Канцэнтрацыя войск Вялікага Княства Літоўскага», якая адбылася ў 2010 годзе ў Беластоцкім музеі вёскі ў Асовічах.

— Ідэя арганізавання гістарычнай рэканструкцыі «Канцэнтрацыя войск Вялікага Княства Літоўскага ў 1410 годзе», якая адбывалася на Бельскай зямлі, выйшла ад гісторыка Алега Латышонка і, пачынаючы з 2009 года, мы рыхтаваліся да гэтага мерапрыемства. У арганізацыю рэканструкцыі побач нашай Маршалкоўскай управы ўключыліся Міністэрствы культуры Літвы, Польшчы і Беларусі. Можна было наладзіць рэканструкцыю на Бельшчыне, так як гэта было ў мінулым, але намнога зручней было арганізаваць яе ў нашым музеі ў Асовічах. Вясной 1410 года ў час канцэнтрацыі войск Вялікага Княства Літоўскага даходзіла да змаганняў на нашых землях, на акраіне княства і рэканструкцыя тычылася штурмавання гарадзішча, — сказаў Анатоль Вап. — Зараз нашае ваяводства адзінае ў Польшчы, якога землі ў мінулым належалі да Вялікага Княства Літоўскага. Зараз у нас таксама наглядаецца вялікая нацыянальная разнароднасць. Апрача палякаў жывуць беларусы, літоўцы, татары і іншыя нацыі і таму ў нас таксама вялікая культурная разнароднасць. Гэта нашае багацце і трэба толькі сумець гэта выкарыстаць у карысць развіцця нашага ваяводства.

У канцы спаткання з рук дырэктара БДК Сяргея Лукашука і інструктара Альжбеты Фіёнік выхадзец з Бельска-Падляшскага дырэктар Анатоль Вап атрымаў падарунак і кветкі.

На працягу дваццаці спатканняў у рамках праекта «Твары вядомыя і невядомыя» з бяльшчанамі спатыкаліся людзі блізкія Бельшчыне, літаратары, гісторыкі і журналісты, між іншым, Надзея Артымовіч, Васіль Белаказовіч, Андрэй Сальнікаў, Малгажата Пракапюк, Уладзіслаў Праховіч, Ірыней Пракапюк, Андрэй Садоўскі.

# Кожны іншы — усе роўныя

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Сучасная камп'ютарная майстэрня ў восем пультаў была галоўнай узнагародай у першым выпуску конкурсу „Падляшская мазаіка. У пошуках супольнасці памежнічча". Падвядзенне конкурсу адбылося 19 верасня ў беластоцкім VI ліцэі імя Зыгмунта Аўгуста. Конкурс, які працягваўся ад лютага, быў адказам на шэраг нацыяналістычных, ксенафобных, антыяўрэйскіх і расісцкіх актаў у нашым рэгіёне (Беласток, Крынкі, Орля, Ядвабнае і Пуньск), да якіх дайшло ў мінулым годзе і на пачатку сёлетняга. На конкурс прыйшло сто пяць прац з дваццаці дзвюх школ Падляшскага ваяводства. Сярод іх былі літаратурныя творы, мультымедыйныя прэзентацыі, малюнкі, календары, прынагодныя газеткі, фільмы, фотаздымкі — індывідуальныя і калектыўныя працы, пры якіх займаліся нават цэлыя класы, а нават па некалькі з іх.**



Кацярына Панькоўская на фоне сваёй працы



Лаўрэаты ўзнагароды за „Каляндар" 2012 — Нашы стравы" з апекуном Уладзімірам Вавульскім (першы злева)

На ўрачыстаці ў „шасцёрцы" было ўзнёсла. Чарговыя лаўрэаты прымалі з рук арганізатараў і афіцыйных гасцей дыпломы і падарункі, у тым ліку між іншым майстар-класы ў мастацкай галерэі „Арсенал", фотаапараты, пропускі на басейн і ў оперу, а ў перапынках можна было паслухаць песень не толькі па-польску і вершы ў выкананні вучняў школы-гаспадара (па-беларуску прагучала „Купалінка"). Галоўны прыз „за паўнату прынятых дзеянняў" (сустрэчы, канцэрты, выставы), завершаных фільмам „Выспа талерантнасці" трапіў да вучняў Пачатковай школы н-р 47 імя Яна Клеменса Браніцкага ў Беластоку. Прэстыжную першую ўзнагароду ў катэгорыі „індывідуальная праца — звышгімназічныя школы" атрымала Кацярына Панькоўская з ІІ „д" класа белліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Выканала яна макет прадстаўляючы пяць падляшскіх храмаў: касцёл у Беластоку, царкву ў Супраслі, сінагогу ў Орлі, мячэць у Крушынянах і збор баптыстаў у Бельску-Падляшскім. Будынкі зроблены з памалявання пенапласту. Да гэтага аўтарка далучыла поўную дакументацыю. „Зорцы" Кася сказала:

— Аб конкурсе я даведалася ад настаўніка гісторыі. Я зацікавілася тым, што на Беласточчыне ёсць розная разнароднасць веравызнанняў і досыць вялікая рэлігійная талерантнасць. Я сама талерантная, і большасць маіх знаёмых таксама.

Аднолькава прэстыжная ўзнагарода, за трэцяе месца ў катэгорыі „калектыўная праца — звышгімназічныя школы", трапіла ў рукі Матэвуша Багроўскага, Рыгора Бужынскага і Аляксандры Шарко таксама з бельскага Белліцэя. Выканалі яны „Каляндар 2012 — Нашы стравы", у якім на кожнай старонцы знаходзяцца здымкі і кулінарныя рэцэпты, характэрныя для кухняў нацыянальных меншасцей, пражываючых на Падляшшы.

Апекуном вучняў абедзвюх узнагароджаных бельскіх прац з'яўляецца настаўнік гісторыі ў белліцэі Уладзімір Вавульскі:

— Нашы вучні агулам заявілі пяць прац. Вельмі ўключыліся ў гэты конкурс. Ад мяне мелі яны толькі тэхнічную дапамогу. Вядома, такі конкурс не пераканае непераканаганых, напрыклад тых, што замалёўваюць двухмоўныя назвы мясцовасцей, ды ўзмоцніць тых, хто пераканаваны да шматкультурнасці.

Цікавыя рысункі адрэкамендавалі таксама вучаніцы Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім: Маргарыта і Вераніка Кубай ды дзеці са святліцы з І-ІІІ класаў Школьна-дашкольнага комплексу ў Агароднічках Супрасльскай гміны, якія назвалі свой твор „Калядны клімат у Агароднічках". Фатаграфічны прафесіяналізм (знакамітае кадраванне і святло) быў бачны ў сваю чаргу на здымках групы вучняў з беластоцкага школьнага інтэрната. Свайму цыклу далі яны загаловак „Акно Бога". Незвычайным прафесіяналізмам — з пункту гледжання рэжысуры, сцэнарыя і спосабу фільмавання — выказалася група хлопцаў з Комплексу тэхнічных школ у Сувалках. Аб сваім фільме ў некалькі хвілін „Старая вера" сказаў „Зорцы" Ігар Лягензаў: „Я хацеў усвядоміць калег у тым, чым з'яўляецца мая вера".

Адной з літаратурных прац дасланых вучнямі Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Ярослава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім вучань Давід надаў форму ліста апісваючага бельскую адвечную шматкультурнасць. Так ён пачынаецца: „Сардэчна дзякую за Твой апошні ліст. Нават не ведаеш, як задзівіла мяне вестка, што я адзіны праваслаўны, прытым беларус, якога Ты ведаеш і нічога не чуў Ты пра нашу рэлігію і культуру. Якраз Твой ліст прымусіў мяне задумацца над тым, якое культурнае багацце змяшчае ў сабе маё месца нараджэння, мая Малая айчына — Падляшша".

Аліна Ваўранюк, настаўніца з Пачатковай школы н-р 4 у Беластоку, са Згуртавання „АБ-БА", якое заявіла ў конкурс „Падляшскія хронікі (пакет, у якім змяшчаліся м.інш. спектакль „Ой дауно, дауно" і кніжка), так у размове з „Зоркай" падвяла „Падляшскую мазаіку":

— Такія конкурсы трэба арганізаваць, хаця шмат яны не зменяць. Трэба дзейнічаць крок за крокам. Гэта павінен быць працэс, калі штодзень гаворыцца, што побач нас жывуць розныя людзі. Былі б мы наіўнымі верачы, што раптам дзякуючы такому аднаразоваму конкурсу прападуць надпісы на сценах са свастыкамі і перастануць пісаць „Jude raus!".

Задумшчыкам конкурсу быў падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч, да якога далучыліся Кураторыя асветы і Маршалкоўская ўправа. Патранаж над ім трымала міністр па справах роўнага трактавання. У час урачыстасці дэпутат Тышкевіч спаслаўся на лагатып Падляшскага ваяводства, на якім відаць зубра са шматлікіх вясёлкавых квадрацікаў, які запраектаваў беларускі мастак сусветнай славутасці з Валіл Лявон Тарасэвіч:

— Гэты конкурс — пазітыўны адказ тым, што хацелі б, каб Падляшша не было мазаікай, а адным, шэрым каменем. Наша разнароднасць лепш падрыхтоўвае нас да сапернііцтва ў свеце і да таго, каб быць адкрытымі.

Згодна з прадбачваннем арганізатараў, конкурс мае адбыцца таксама праз год.

## „Разам з табою"

Пойдзем па гродзенскіх завулках, прыслухаемся размовам людзей у парку, у краме ці ў царкве. Раптам становіцца неяк сумна. Бо хаця здаўна вядома, у якой пашане ва ўлад, а ў прыватнасці ў прэзідэнта РБ, беларуская мова, усё ж спадзяешся, што хтосьці парадуе хаця б звыклым „дзякуй" ці „калі ласка". Аднак каб у старажытным беларускім горадзе адчуць сапраўдную атмасферу Сінявокай, не толькі гэтую афіцыйную, з замацаванымі на будынках лозунгамі кшталту „Квітней, Радзіма", даводзіцца або наведаць каталіцкае набажэнства на беларускай мове, або загадзя падрыхтавацца і падшукаць нейкую „андэргрӑўндную", г.зн. інтэлігенцкую ці патрыятычную падзею.

Сёлета, перад запланаваным на канец жніўня турыстычным выездам на Гродзеншчыну, цалкам выпадкова ў інтэрнэце я наткнулася на інфармацыю пра кнігу перакладаў вершаў ксяндза Яна Твардоўскага і яе прэзентацыю ў адной з гродзенскіх арт-галерэй. Пераступіўшы парог гэтай жа „Крыгі", я адчула сябе быццам у іншай рэальнасці. Інтэр'ер, артыстычная аранжыроўка невялікага памяшкання, паўсюль работы беларускіх і польскіх мастакоў — усё зроблена як трэба, з мастацкім густам. Наведвальнікі імпрэзы — гродзенскія мастакі, пісьменнікі, навукоўцы, журналісты. Аматараў паэзіі прыйшло так многа, што не ўсе жадаючыя паслухаць вершы і набыць кнігу знайшлі месца ў невялікім пакоі. Цягам гадзіны галерэя поўнілася голасам перакладчыц паэзіі кс. Твардоўскага — экспрэсіўным, выразным Дануты Бічэль і меланхалічным Хрысціны Лялько. Вершы выдатна гучалі таксама ў арыгінале — для гродзенцаў, як аказалася, польская мова не зусім чужая.




Двухмоўны зборнік „Разам з табою" пабачыў свет дзякуючы мінскаму выдавецтву „Про Хрысто" (дзеючым пры Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Беларускага Каталіцкага Касцёла). Падбор і знакаміты пераклад вершаў дапоўніла тэхнічнае і графічнае афармленне кніжкі з прыгожай, эстэтычнай вокладкай аўтарства Паўла Татарнікава. У кніжцы змешчаны фатаграфіі ксяндза Твардоўскага з розных гадоў. Вершы ў кніжцы не складаюць нейкага цыкла ці храналагічнай цэласці. Па словах пісьменніцы і журналісткі Хрысціны Лялько, „Разам з табою" можна чытаць як Евангелле: гартаючы старонкі правяраць, што ў канкрэтны дзень хоча сказаць нам ксёндз Ян Твардоўскі.

Кніжка-шэдэўр, а таксама атмасфера, размовы і агульна вельмі станоўчыя ўражанні ад яе прэзентацыі — усё гэта было магчымым дзякуючы людзям, якім усё яшчэ на сэрцы беларускія ідэя і дух. Галерэя „Крыга" з'явілася мне невялічкім астраўком сапраўднай беларушчыны ў горадзе над Нёманам.

**Ганна МОРДАНЬ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі





# Смачна есці!

Міхалоўскія вучні, пасля трох тыдняў вучобы беларускай мове ў школе, паставілі першыя крокі на сцэне. 23 верасня ў час „Свята грыба” вучні чацвёртых класаў выступілі перад публікай і паказалі інсцэнізацыю „Смачна есці”. Гаспадар і Гаспадыня прывіталі ўсіх гасцей у хаце Колі і Мані, якія зварылі галушкі з грыбамі. З гаршком пайшлі яны між гледачоў і пачаставалі ўсіх смакоццямі. Узнагародай дзецям былі гучныя апладысменты.

Выступленне падрыхтавалі настаўніцы Альжбета Раманчук (тэкст і пастаноўка) і Анеля Монах (з дапамогай бацькоў назбірала і спякла смачныя галушкі з грыбамі з лесу). Спадарыня Анеля шчыра дапамагае ў пашырэнні беларускай мовы ды захаванні памяці і традыцый рэгіёна. Бацькам і дзецям асабліва цікава было шукаць старую вопратку, хусткі, робленыя на прутках шкарпэткі, капелюшы і драўляныя лыжкі — рэчы, якія, здавалася б, ніколі не будуць патрэбныя. Аказваецца, што ў старых куфрах і шафах таксама можна штосьць цікавага знайсці. Дзецям цікава было пачуць, што калісь уся сям'я ела з адной пасуды, а ў хаце мелі толькі адну пару ботаў. Пасля выступлення дзеці папрасілі мяне напісаць наступную сцэнку з жыцця сям'і.

**Альжбета Раманчук**

# Конкурс пра восень (29)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам восені. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Як завецца восеньскае свята ў Міхалове?**

а) Свята грыба,
б) Свята дыні,
в) Свята яблыка.

**2. Які музычны спектакль з удзелам дзяцей з Беластока паставілі на сцэне Беластоцкай оперы і філармоніі?**

а) „Корчак”,
б) „Каралева ў сонным лесе”,
в) „Аліса ў сонным каралеўстве”.

**3. Дзе знаходзіцца беларускі „Склеп з культурай”?**

а) у праваслаўнай школе ў Беластоку,
б) у беластоцкай „чацвёрцы”,
в) у бельскай „тройцы”.

**4. Дзе на Беласточчыне адбываюцца славутыя археалагічныя фэсты?**

а) у Тыкоціне,
б) у Суражы,
в) у Збучы.

Адказы дасылайце да 21 кастрычніка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Адказы на пытанні конкурсу № 27: Апошнімі ў вырай адлятаюць жураўлі (в); старажытнае восеньскае свята, звязанае з ураджаем — багач (б); аўтар „Чарнобыльскай малітвы” — Святлана Алексіевіч (а); ідэя пабудовы капліцы ў Кудаку нарадзілася ў пачатку XVI ст. (а). Узнагароды — **майкі з лагатыпам „Нівы”— выйгралі Наталька Бірыцкая, Аня Бляўская, Наталля Васько, Патрыцыя Бірыцкая.** Віншуем!

**ЗОРКА**



Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

**В. Жуковіч**

## *Загадка з пер'ем*

*Хто плыве па небе клінам*
*У асеняй цішыні?*
*І ўзоркам, і далінам*
*Хто курлыча з вышыні?*

# Вершы Віктара Шведа

## У філармоніі

На канцэрт спазняецца
І месца шукае.
Суседа пытаецца:
— Што цяпер іграюць?

— Пятую сімфонію
Бетховена Людвіга.
Ужо пятую — іронія,
Як на мое ліха!

## Таму, што глухая

Настаўнік просіць Валодзю:
— Скажы мне, каб усе чулі,
Чаму на бацькоўскім сходзе
Была твая бабуля?

— Ці трэба мне прызнацца,
Ці праўду сказаць маю?
— Хачу таго спадзявацца.
— Таму, што яна глухая.

*Лукаш МАРЧУК*
*Нараўка*

# Восень

*Восень...*
*Пастрасала лісткі з дрэў*
*Хаця ніхто гэтага не хацеў.*
*Закалыхала мядзведзя ў нары*
*Які ляжаў на бярозавай кары.*
*Добрае надвор'е нам адабрала,*
*А на зямлю дажджы наслала.*
*Сонца з неба схавала,*
*І ўсім людзям настрой сапсавала.*
*Вось і восень!*



Фота Ганны Кандрацюк

# „Калінка” з Залук

Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Моладзевы калектыў беларускай народнай песні з вёскі Залукі Гарадоцкай гміны ўзнік у 2002 годзе. Ад пачатку свайго існавання калектыў здабываў прызнанне штораз большага ліку слухачоў. Было ў ім чатырнаццаць асоб. Цяпер налічвае ён восем асоб: спадар Віктар Леанкевіч з Гарадоцкага цэнтра культуры ды дзяўчаты: Паўля Лех, Сільвія Літвін, Юстына Дробат, Агнешка Паплаўская, Анна Міньчук, Кацярына Харужая і Багуся Каранкевіч.

— Стараемся захоўваць і распаўсюджваць звычаі нашых продкаў, хочам, каб беларускія і славянскія песні траплялі да шырокага кола атрымальнікаў, — кажа Агнешка Паплаўская. — Адтуль у нас ідэя, каб у нашым рэпертуары апынуліся творы ў сучаснай апрацоўцы, а нашы выступленні аздаблялі танцы і гумарыстычныя сцэнкі. Наш ансамбль узнік дзякуючы нашым сеніёрам, якія спяваюць у калектыве „Каліна”

Калектыў выступае на шматлікіх фестывалях і фэстах, здабываючы вядучыя месцы. У жніўні адбыў гастролі па Ніжняй Сілезіі. Вядомыя песні „Калінка” гэта „Ой, да асыпаецца вішнёвы сад”, „Вёсачка”, „Каля рэчкі”, „А на вяселлі”, „Купалінка”, „Чаму ж нам не пець”, „Булачка”, „Люблю наш край”, „Красная каліна”, якія ахвотна заказваюць слухачы Радыё Рацыя на Падляшскім канцэрце пажаданняў.

— Не саромімся, што спяваем пабеларуску і што мы ў такім ансамблі. Усе ўспрымаюць нас пазітыўна, — прызнаецца Паўля Лех.

Кася Харужая:

— Не наракаем, вельмі цешымся. Гэта якраз збудавала наша сяброўства, бо не толькі калектыў, але і ў прыватным жыцці ствараем мы вельмі згуртаваную кампанію, і якраз дзякуючы калектыву. Тым больш што перажылі мы як калектыў нялёгкі час, і ўтрымаліся. Маем цяпер новыя строі, якія атрымалі на сваё дзесяцігоддзе. Яны вельмі прыгожыя і адрозніваюцца ад усіх касцюмаў беларускіх калектываў, пашытых крыху на адзін капыл.

„Калінка” збіраецца цяпер выдаць свой дыск са „старымі” і новымі песнямі.

**Міра ЛУКША**

*Гімназісты з Беластока з Альжбетай Рудкоўскай*



Фота Ганны Кандрацюк

## Бацькоўскія парады.

Жыў у адным сяле чалавек, у якога быў сын. Вось аднойчы бацька і кажа:

— Слухай, сынок! Жыві так, каб ты меў у кожным сяле хату, на кожны дзень новыя боты і каб табе ўсе людзі кланяліся.

Задумаўся сын над бацькоўскімі словамі, а потым пытае:

— Як жа я магу паставіць у кожным сяле хату, купляць штодзень новыя боты і прымушаць усіх, каб мне кланяліся?

Засмяяўся стары і кажа:

— Вельмі лёгка, сынок! Будзеш мець у кожным сяле надзейнага сябра — будзеш мець і сваю хату.

Каб на кожны дзень былі новыя боты, трэба іх штовечар чысціць, і раніцай яны будуць, як новыя.

І ўставай, сынку, на золку — раней за ўсіх, ідзі і працуй. А як пачнуць ісці на работу людзі, то ўсе будуць з табой вітацца і кланяцца.

## Загадка

Раслі ў полі тры таполі,
а за рэчкай на сем болей.
І за рэчкаю і ў полі —
палічыце ўсе таполі.

## На Пакровы дзеўка раве як карова!

*(з народнага)*

*Дзяўчаты, ці гэта зіма ці лета, заўсёды любяць паваражыць. Нашыя прабабкі варажылі пра каханне, значыць, пра замужжа. Адна з такіх варожбаў была прымеркавана пад Пакровы. Дзяўчаткі збіралі каляровае лісце, што асыпалася з дрэў, клалі яго ў фартушок, каб пасля выпусціць на вецер. У той бок, дзе паляціць лісцейка, пойдзе яна замуж. Напярэдадні Пакроваў прыгажуні пяклі салёныя бліны. Елі іх на ноч і чакалі аж прысніцца суджаны, які данясе кубак з вадой. Той хлопец са сну не патрабаваў ужо спецыяльна старацца. Дзяўчына верыла, што яго назначыў лёс. Ёсць прыказкі, звязаныя з гэтым святам: „Пакровы прыйдуць — дзеўцы галаву накрыюць”. У выпадку, калі не шанцавала выйсці перад зімой замуж, казалі: ”Прыходзіць Пакрова — раве дзеўка як карова!”*

**ЗОРКА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 41

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Brend | | | | | | | | | | Jeleń |
| Echo | | Cha! | Biało-wieża | | As | | | Katar | | |
| | | | | Gąsien-nica | Aster | Zastrzyk | | | | |
| Bierz | | | Siano | | | Pan/ Pani | Ewa | | | |
| | | Wszechświat / Farsa | | | | | | | Witka | |
| | Festiwal | | | | | | | | | |
| Sposób | | | | | | Ara | | | | Ar |
| Los | Rana | | | | | | | Za | | |
| | | | | | Duma | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 36:**

Каліна, яма, фонд, мак, сто, верасень, верш, калена, марко, вера, золак, каса, саха, Ас. Клас, трава, ля, лес, вера, Вена, мерка, фарш, за, Ака, мох, Ала, дзецюк, нырка, Зоська.

*У Залешанах Кляшчэлеўскай гміны, так як і ў многіх іншых нашых сёлах, зараз жыве мала людзей, у асноўным гэта пенсіянеры. Вёска вядомая не толькі з-за пасляваеннай трагедыі, калі забівалі там невіноўных людзей і палілі дамы, але таксама з-за Манаскага жаночага дома, які дзейнічае тут ад некалькіх гадоў. Выхадцы і людзі з наваколля з'язджаюцца сюды ў апошнюю нядзелю кожнага месяца, калі ў царкве служыцца літургія і чытаецца акафіст да святой велікамучаніцы Кацярыны. Разам са святарамі з Дзмітрыеўскага мужчынскага манастыра ў Саках і з мясцовай ігуменняй Елізаветай моляцца тады мясцовыя вернікі і паломнікі з навакольных сёл — Тапароў, Сакоў, Сухавольцаў ды з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і іншых мясцовасцей. У нядзелю, 16 верасня, у родную вёску прыехалі выхадцы з Залешан і іх сямейнікі.*



■ Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# „Жывуць людзі" і ў Залешанах

У першым радзе побач святароў — бурмістр Ірэна Негярэвіч і солтыс Залешан Яўген Сакоўскі

Наведвалі яны магілы сваіх продкаў і разам са свяшчэннікамі Кляшчэлеўскага прыхода маліліся на вясковым могільніку. Пасля абеду Музей і асяродак беларускай культуры з Гайнаўкі, бурмістр Кляшчэляў і Гарадскі асяродак культуры, спорту і рэкрэацыі з Кляшчэляў запрапанавалі ім наведаць у Залешанах беларускі народны фэст з цыкла «І тут жывуць людзі», які завяршыў ладжаныя музеем сёлетнія пленэрныя мерапрыемствы.

— Залешаны гэта невялікая вёска і мы рашыліся прымеркаваць дату беларускага фэсту да дня, калі ў Залешанах збярэцца больш людзей. Пасля наведвання магіл з намі засталіся жыхары Беластока, Бельска і іншых мясцовасцей, якія з Залешан раз'ехаліся па свеце. З гэтай вёскі выводзіцца таксама мая мама, — сказала бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, вітаючыся з прахожымі. — Нашае пакаленне і старэйшыя ад нас людзі з асаблівай настальгіяй наведваюць магілы продкаў. Трэба прывучаць, каб і нашы дзеці не забывалі пра магілы продкаў, бо зараз маладое пакаленне ў галоўным занятае сучаснымі праблемамі.

Каля нас затрымаўся жыхар Беластока і выхадзец з-пад Семяноўкі Мікола Пучынскі, які пахваліў ідэю арганізавання беларускага фэсту і выдавання нашага тыднёвіка.

«Толькі скнара і ляніві не чытае «Ніву», — працытаваў ён лозунг, які памятае з дзяцінства.

Мікола Пучынскі чытае наш тыднёвік, у тым ліку і допісы нашага карэспандэнта, а ягонага свата Грышы Мароза са Старога Беразова. Многія жыхары Залешан і наваколля ў мінулым вучыліся беларускай літаратурнай мове ў падставовай школе і чыталі «Ніву».

Наш карэспандэнт Уладзімір Сідарук прыбыў на фэст крыху пазней, бо збіраў грыбы. Раней пісаў ён пра Залешаны і мерапрыемства адкрыцця вясковай святліцы, побач якой і было наладжана беларускае мерапрыемства. Бурмістр Ірэна Негярэвіч удакладніла, што ўся рамонтная інвестыцыя каштавала каля 170 тысяч злотых. За гэтыя сродкі быў праведзены шыкарны рамонт, абсталяваны камінак і кухонная мэбля. Рамонту рады мясцовыя жыхары і солтыс Яўген Сакоўскі, які ў час фэсту сядзеў у першым радзе, між іншым, побач бурмістр Ірэны Негярэвіч і святароў Кляшчэлеўскага благачыння: благачыннага, мітрафорнага протаіерэя Мікалая Келбашэўскага, вікарнага Кляшчэлеўскага прыхода протаіерэя Паўла Нікіцюка і настаяцеля Мілейчыцкага прыхода протаіерэя Яна Куліка. Апошні, ураджэнец Пашкоўшчыны, вяртаючыся на радзіму, наведваe беларускія фэсты. Сустрэў я а. Яна таксама на беларускім народным фэсце ў Орлі.

— Жыхары нашай гміны патрабуюць ладзіць у іх мясцовасцях музычныя фэсты і мы стараемся выконваць іх патрабаванні. На фэсце з цыкла «І тут жывуць людзі» першы раз я пабывала ў Войнаўцы. Тады я рашылася наладзіць супрацоўніцтва з Беларускім музеем і яго дырэктарам Тамашам Ціханюком, каб і ў нас арганізаваць беларускія фэсты. Добра, што ў нашых вёсках жывуць людзі, якія хочуць дапамагаць у арганізаванні мерапрыемстваў. Сёння мясцовыя жыхары таксама дапамагаюць нам. Музычныя фэсты аб'ядноўваюць людзей, так як сёння, — гаварыла бурмістр Ірэна Негярэвіч.



— Апрача музычнага мерапрыемства, якое было наладжана ў час адкрыцця нашай святліцы, у нас раней практычна не арганізаваўся ніякі музычны фэст. Ладзіліся забавы, але гэта штo іншае і таму сённяшні беларускі фэст такі нам важны і займальны. Важна, што людзям падабаецца наша музыка. Прыехалі на фэст нават людзі з аддаленых ад нас Грузкі, Курашава ці Палічнай, — сказаў солтыс Залешан Яўген Сакоўскі і прыгадаў пасляваенны перыяд. — З маёй сям'і ніхто не загінуў з рук жаўнераў атрада «Бурага», але, напрыклад, сям'я Нічыпаркоў (сям'я ігуменні Елізаветы Нічыпарук з мясцовага манаскага дома — А. М.) вельмі моцна пацярпела, бо загінулі, між іншым, маленькія дзеткі.

Справа спалення Залешанаў атрадам Рамуальда Райса «Бурага» вяртаецца ў размовах жыхароў гэтай вёскі пры розных нагодах.

— Я тады быў яшчэ маладым хлапчуком, калі разам з іншымі людзьмі заперлі нас у адной з хат і яе падпалілі. Усе стаялі там у сціску і я па плячах людзей стараўся дабрацца да акна і ўцячы. Аднак адзін з палякаў пачаў страляць праз акно і нават куля шорнула мне па галаве і зрабіла невялікую рану. Я вельмі спалохаўся, так як усе там сабраныя, але мужчынам удалося выпіхнуць дзверы разам з вушакамі і мы пачалі ўцякаць. Гэты, што пільнаваў дом, з-за агню мусіў адысці і таму не страляў у нас, — расказваў усхваляваны Пётр Младзяноўскі з Залешанаў і дадаў, што на фэсце не хапае яму звычайнай ігры на акардэоне, якая дазволіла б вярнуцца памяццю ў маладосць, бо ж не заўсёды можна ўспамінаць толькі сумнае.

Перад публікай з беларускай музыкай выступілі калектывы «Дэкада-Бэнд» з Беластока, «Арт-Пронар» і «Нарва» з Нарвы.

— Мы намагаемся, каб у час нашых фэстаў прынамсі на працягу трох гадзін можна было ўдала адпачыць пры беларускай музыцы. Частка нашых фэстаў яшчэ больш доўжыцца. На працягу чатырох сезонаў наш музей наладзіў каля 30 музычных мерапрыемстваў з цыкла «І тут жывуць людзі» і заўсёды на іх была публіка. Калі нават ішоў дождж або было холадна, людзі не адыходзілі і слухалі нашыя беларускія песні. Першы фэст з цыкла «І тут жывуць людзі» адбыўся ў Арэшкаве. Там сабралася вельмі многа людзей і гэта нас падбадзёрыла да арганізавання чарговых мерапрыемстваў. Тады дырэктарам нашага музея быў Ян Карпюк, а я ў музеі займаўся справамі культуры. Пазней я стаў дырэктарам і працягваю распачатую працу, — сказаў дырэктар музея Тамаш Ціханюк. — У Кляшчэлеўскай гміне наладзілі мы беларускія фэсты ў Саках, Тапарах, Палічнай і Залешанах. Сённяшняе мерапрыемства лічым удалым, бо сабралася прыстойная публіка, якая хоча слухаць родныя песні.

У час беларускага фэсту традыцыйна можна было купіць беларускія кніжкі, кружэлкі з беларускай музыкай і сувеніры, якія прадавалі працаўнікі музея.

— Сённяшні фэст — удалы, як і ўсе іншыя беларускія фэсты арганізаваныя нашым музеем, — сказаў былы дырэктар Гайнаўскага белмузея Ян Карпюк, які раней пабываў на могільніку ў Тапарах, дзе іераманахі з манастыра ў Саках асвячалі магілы.

Сярод людзей сабраных на фэсце найбольш было старэйшых асоб, але прыйшлі і малодшыя, а песні ў выкананні згаданых калектываў падабаліся як старэйшым, так і малодшым.

# З Воленскага прыхода (3)

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

**Складаны асабісты лёс Міхала Баброўскага ўскладніў і ягоны навуковы даробак. Не захаваліся ягоныя найбольш каштоўныя працы па гісторыі славянскага кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім, беларускія лінгвістычныя даследаванні ці папулярныя багаслоўскія апрацоўкі. Затое з ягоным прозвішчам звязаны дакумент незвычайнай культурна-гістарычнай вартасці — Супрасльскі зборнік, які ў шырэйшым навуковым свеце больш вядомы пад назвай Codex Suprasliensis.**

Назва зборніка ўзялася з таго, што ён быў знойдзены Міхалам Баброўскім у фондах бібліятэкі Супрасльскага манастыра, бо па сваёй сутнасці ён ніякага іншага дачынення да Супраслі не мае. Гэты Кодэкс з'яўляецца чэццяй-мінеяй (месячнае чытанне, якое ўключае жыцці святых, павучанні, пропаведзі, складзеныя ў адпаведнасці з днямі ўшанаўвання Царквою святых) на сакавік. Даследчыкі апошнім часам устанавілі, што дакумент напісаны ў другой палове X стагоддзя на ўсходзе Балгарыі, найверагодней у Прэславе, але раней былі таксама меркаванні, што ён мог паўстаць і на тэрыторыі цяперашняй Харватыі, і на тэрыторыі цяперашняй Румыніі. Ды і дата яго напісання таксама здагадвалася па-рознаму, сягаючы нават XIII стагоддзя. Якім чынам ён трапіў у Супрасль — можна толькі здагадвацца. І здагадка тая такая, што прынеслі яго ў Супрасльскі манастыр ананімныя балгарскія манахі, якія менавіта тут, у нас, каля паўтысячагоддзя таму, шукалі сховішча перад турэцкім нашэсцем на балгарскія землі. Але ёсць і іншыя меркаванні — што прывезлі яго ў Супрасль візантыйскія або паўднёваславянскія царкоўныя іерархі ў час сваіх паездак у Рэч Паспалітую... Гэты рукапіс, які лічыцца адным з найстарэйшых помнікаў славянскага пісьменства, ціха праляжаў у супрасльскіх фондах да 1823 года, калі яго там знайшоў менавіта Баброўскі. Захавалася 285 лістоў выдатна выробленага пергаменту, памерам 31 х 23 см з тэкставымі рамкамі памерам 23 х 15 сантыметраў.

Пра сваю знаходку Баброўскі паведаміў вучоных славістаў, з якімі ён працаваў так у Пецярбургу, як і на захадзе Еўропы. І з таго часу пачынаюцца новыя, незвычайныя прыгоды каштоўнейшага дакумента. Венскі славіст, славенец па паходжанню Ерней (Барталамей) Копітар, даведаўшыся пра знаходку, стаў Баброўскага настойліва прасіць, каб гэты дакумент прыслаць яму. Баброўскі падзяліў зборнік на дзве часткі і паслаў яму ў Вену 167 апошніх лістоў, першыя 118 захоўваючы ў сябе. Калі Копітар вярнуў першую пасылку, Баброўскі паслаў яму 118 лістоў першай часткі зборніка, якіх Копітар да ягонай смерці ў 1844 годзе не вярнуў. З Вены Копітаравы зберажэнні былі перавезены ў Любляну і тая частка Супрасльскага кодэкса сёння захоўваецца ў тамашнім універсітэце.

Другую частку зборніка набыў у Баброўскага калекцыянер даўніны Уладыслаў Трэмбіцкі, ад якога трапіла яна ў прыватную варшаўскую бібліятэку графа Замойскага. Але Замойскаму трапіў толькі 151 ліст, а іншых 16 лістоў зборніка апынулася ў Пецярбургу; захоўваюцца яны сёння ў тамашняй Нацыянальнай бібліятэцы. А варшаўская частка захоўвалася да Другой сусветнай вайны, адкуль у лістападзе 1939 года была вывезена ў Берлін, два гады пазней вернутая ў Варшаву, дзе прабыла да 1944 года, да Варшаўскага паўстання. І пасля слых пра яе прапаў на доўгія гады. Але ў 1968 годзе яна была выяўлена ў ЗША, у Гарвардскім універсітэце каля Бостана, адкуль была выкуплена польскім урадам і зараз захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.


Міхал Баброўскі



Такім вось чынам старабалгарскі рукапіс, які ў навуковым свеце атрымаў назву Супрасльскага кодэкса, а балгары называюць яго таксама Рэткавым зборнікам ад імя пазначанага ў ім перапісчыка, адбыў сусветнае падарожжа, „эмігруючы” ў краіны, у якія мецілі славянскія першаасветнікі Кірыла і Мяфодзій. Яны ж кіраваліся са сваёй місіяй менавіта ў нашым напрамку, дайшлі да Маравіі, адкуль былі прымушаны падацца ў іншы бок, у Рым. Іхнія вучні развівалі іхняе вучэнне не толькі ў Охрыдзе, у сённяшняй Македоніі, але менавіта і ў Прэславе, які з 893 да 971 года быў балгарскай царскай сталіцай. Культурнай сталіцай Балгарыі Прэслаў быў намнога даўжэй, там з'явіліся пераклады на стараславянскую мову твораў айцоў хрысціянскай літаратуры; шмат з іх апынулася і ў Супрасльскім кодэксе.

Кодэкс змяшчае пропаведзі славутых хрысціянскіх прапаведнікаў, м.інш. Іаана Златавуснага (18 яго пропаведзяў захоўваецца ў Варшаве), Васілія Вялікага, патрыярха Фоція, а таксама жыцці святых, з якіх не ўсе маюць адпаведнікі ў візантыйскіх крыніцах. Парадкам прыкладу я тут прывяду жыцце сарака мучанікаў; магчыма, што яно некаму фамільярнае, але думаю, што шмат хто пра тых мучанікаў чуў, а мо больш пра свята ў іх памяць, а пра іх саміх мо менш вядома; фрагмент Супрасльскага кодэкса з гэтым жыццем захоўваецца ў Любляне.

У час праваслаўнага вянчання маладых, святар, вядучы іх у другі круг вакол аналоя, прыгадвае пра сорак мучанікаў, пра іх стойкасць у веры: „Святии мученицы, добре страдальчествовавшии, и венчавшиися, молитеся ко Господу, помиловатися душам нашим”... Было гэта ў 320 годзе ў Севастыі, пры кесары Лікініі. Севастыйскі гарнізон складаўся з сарака ваяраў, шчырых хрысціян. Кесар Лікіній, даведаўшыся пра іх веравызнанне, выдаў загад, што тыя, хто не паклоніцца паганскім багам, будуць замучаны да смерці. У Севастыю прыбылі кесаравы карнікі і загадалі ваярам адрачыся ад Хрыста. Яны адмовіліся і ім карнікі загадалі распрануцца, а быў гэта зімовы перыяд. Ваяры былі голымі пастаўлены на адным беразе абледзянелага возера, а на другім беразе гарэлі кастры ідалапаклоннікаў, куды пакутнікі маглі б пайсці пагрэцца, калі б яны адракліся ад сваёй веры. Але яны сталі і калі смерць наблізілася да іх, з'явіліся анёлы і ўсклалі ім на галовы вянцы. Рымскія карнікі, пабачыўшы гэта, таксама скінулі свае вопраткі і далучыліся да храбрых ваяраў. Згадка пра сорак мучанікаў у час вянчання абяцае маладым вянцы ў Царстве нябесным, калі яны будуць прытрымлівацца прынцыпаў Хрыстовай веры.

А цяпер зноў крыху геаграфіі. Менавіта — дзе ж тая Севастыя? А гэта ж цяперашні горад Сівас у цэнтральнай Анатоліі, каля паўтысячы кіламетраў на ўсход ад Анкары. І гэтае месца крыху фамільярнае... Калі хто цікавіцца беластоцкім спортам, той ведае, што найбольшых поспехаў найбольш папулярны ў нас від спорту, футбол, дабіўся, калі за мясцовую „Ягелонію” выступаў Каміль Грасіцкі, які з Беластока перайшоў гуляць менавіта ў Сівас, за каманду „Сівасспор”...

Ці падумаў быў Рэтка, старабалгарскі перапісчык, што ягоны твор са сталічнага Прэслава трапіць у правінцыйны Супрасль, а адтуль зноў у тройцу іншых сталіц? Ці падумаў быў маленькі Мішка Баброўскі, бегаючы па воленскіх задворках, што ягонае імя засацыюецца з сусветнымі гісторыяй і геаграфіяй? У нашых тутэйшых вёсках штораз менш дзяцей, але ж можа і з іх ліку выйдзе ў свет нейкая славутасць...

## Медалі шлюбным парам

Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Сужонства Курылаў пражыло супольна 70 гадоў

Прэзідэнт Рэчы Паспалітай прызначае медалі шлюбным парам за 50-гадовае супольнае сужонства. Заявы на іх атрыманне падае ў прэзідэнцкую канцылярыю мясцовае самакіраванне. Сёлета ў Чаромхаўскай гміне медалі атрымалі пятнаццаць пар юбіляраў: Сабіна і Людвік Чэрмакі з Пагулянкі, Вера і Дзмітры Асепскія, Вера і Міхал Рэй, Валянціна і Кастусь Рэй з Зубачоў, Яўгенія і Мікалай Дарашкевічы, Ніна і Мікалай Шатыловічы з вёскі Чаромха, Кацярына і Андрэй Смыкі, Яўгенія і Аляксей Верамчукі з Вулькі-Тэрахоўскай, Марыя і Сяргей Саўчукі з Кузавы, затым з пасёлка Чаромха: Валянціна і Міхал Дубковічы, Ева і Тадэвуш Капланы, Параскева і Васіль Курылы, Вера і Мар'ян Стэмпнякі, Надзея і Сяргей Трафімюкі ды Марыя і Уладзімір Зінчукі. Мерапрыемства ўрачыстага ўручэння медалёў для дванаццаці шлюбных пар (тры пары не змаглі прыехаць), адбылося 21 верасня ў Гмінным асяродку культуры. Удзельнічалі войт гміны Юры Шыкула, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Чаромсе а. Юры Пліс, сакратар гміны Марыя Іванюк ды працаўнікі ЗАГСа Аліцыя Пыталь і Анна Калток. Медалі ўручаў войт гміны Юры Шыкула, а букеты кветак і падарунак — кіраўнік ЗАГСа Аліцыя Пыталь ды сакратар гміны Марыя Іванюк. У мастацкай частцы выступіў дзіцячы гурт „Гілочка” пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанка. Пасля быў супольны пачастунак пры гарбаце. Былі і тосты з шампанскім, успаміны. У крузе зацікаўлення апынулася сужонства Курылаў. Родам яны выходзяць з Вулькі-Нурэцкай. Як сказаў мне дзядуля Васіль, ажаніўся ён з маладой Параскевай у дваццацігадовым узросце. Шлюб бралі царкоўны, у ЗАГСе не распісваліся. Так пражылі 20 год. Калі нарадзіўся сын Аляксандр, тады распісаліся. Было гэта ў 1962 годзе. Такім чынам сёлета адзначалі не 50-гадовы, але 70-гадовы юбілей. Памяць у старэчаў нядрэнная, хоць слых ужо ненайлепшы. У дзядулі ногі адказваюць паслухмянасці. А бабулька Параска аказалася нядрэннай пявунняй. Супольна з дачкою Яўгеніяй, якая спадарожнічала бацькам на імпрэзе, былі запяваламі пры застоллі. Рэпертуар у іх багаты. Калі спыняліся песні, Мікалай Шатыловіч з вёскі Чаромха чытаў свае вершы. Даволі цікавыя яны былі, гумарыстычныя і трапна адлюстроўвалі сучасную рэчаіснасць. Сёлетнія чаромхаўскія святкаванні 50-гадовага юбілею супольнага сужонства праходзілі ў сямейнай, дружнай атмасферы. Няхай юбілярам здароўе паслужыць на многае лета і заўжды свеціць сонца!

**Уладзімір СІДАРУК**

1 ☞ працяг

## Галасаванне без выбару

кандыдаты, аднак я ніводнага не ведаю. Я іх не бачыла і пра іх нічога не чула.

— Ціха! — з усмешкай маргнула сябра камісіі і стала тлумачыць: — Гэты наш, лагойскі, а гэты смалявіцкі...

* * *

Нядзельны вечар. Здымаем кватэру па Праспекце Незалежнасці, у самым цэнтры беларускай сталіцы, дзвесце метраў ад Палаца Рэспублікі, дзе ў час выбараў працуе Цэнтральная выбарчая камісія. Заязджаем у двор. Цёмна хоць вока выкалі. Выходзім з машыны і чуем дзіўны гул. Працуюць цяжкія маторы. Вытрэшчваем вочы ў цемру і што бачым? Цэлы двор застаўлены аўтазакамі з уключанымі рухавікамі. Тое ж самае ў суседніх дварах і на вуліцы Інтэрнацыянальнай за Палацам Рэспублікі, на Ратушнай плошчы ў Верхнім горадзе.

На Кастрычніцкай плошчы многа не толькі міліцыі ў форме, але і дзіўных асобеняў у цёмных куртках і чорных вязаных шапках. Хто ім прыдумаў такі камуфляж? Лепш бы яны надзелі мундзіры, не так лезлі б у вочы.

— Чаго яны баяцца, — пытаю менскага сябра, — няўжо ў іх дрэнная разведка? Няўжо яны не ведаюць, што ніхто нічога не збіраецца тут арганізаваць? Апазіцыя ж аб'явіла байкот, а народ наогул не перажывае за гэтыя выбары.

— Усё яны добра ведаюць, але раз запушчаная машына тэрору не можа так проста спыніцца. Сілавыя структуры так разбудаваныя, што яны не могуць нічога не рабіць. Ды і ў іх павінны быць свае расходы.

Адтуль і арышты напярэдадні выбараў маладых асоб, якія жыхарам Менска раздавалі боршч (улюбёная страва Ярмошынай) і збіццё журналістаў, якія здымалі хэпенінг. Адтуль і забарона ўезду шведскім журналістам, і канфіскацыя дарагой здымачнай апаратуры аўстралійцу...

* * *

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына апошнюю прэскanферэнцыю ў дзень выбараў склікала на адзінаццаць вечара. Спазняецца амаль гадзіну. Перад камерамі і мікрафонамі, аднак, не скрывае самазадавальнення. Яўка на ўчастках ад 70 да 80 працэнтаў, трохі меншая ў вялікіх гарадах чымсьці на правінцыі, тым не менш, выбары ўсюды важныя.

Матэа Мекачы наступнага дня заявіў, што місія назіральнікаў АБСЕ не можа аднесціся ні да вынікаў выбараў агучаных Цэнтрвыбаркамам, ні апазіцыяй, якая паставіла пад сумнеў легітымнасць выбараў, паколькі па яе падліках яўка на выбарчых участках была ніжэйшай за патрэбныя 50 адсоткаў. З простае прычыны:

— Мы не маем магчымасці праверыць тыя лічбы, бо не былі дапушчаны да падліку галасоў.

24 верасня Лідзія Ярмошына аб'явіла, што толькі ў адной гомельскай акрузе безальтэрнатыўны кандыдат не набраў патрэбных 50 адсоткаў галасоў, астатнія 109 новых дэпутатаў выбраныя.

Спіс новых дэпутатаў яшчэ дзень да выбараў надрукавала „Наша ніва".

3 ☞ працяг

## Не пакідайце Беларусі!

лі не будзе змен у нашай інфармацыйнай прасторы.

І падвяла:

— Былі гэта чарговыя выбары, мэтай якіх было абсалютнае ўмацаванне ўлады і гэтак сталася. Не нарадзілася альтэрнатыва. Столькі было спадзяванняў тры гады таму, калі даходзіла да візітаў у Беларусь еўрапейскіх палітыкаў высокага ўзроўню, калі Беларусь была ўключана ва Усходняе партнёрства. Я тады верыла, што рухаемся ў добрым напрамку. Не было таксама з боку ўлад агрэсіўнага накірунку. Усё гэта звалілася 19 снежня. Адносіны беларускай улады да Еўропы вельмі рацыянальныя, прагматычныя. У сапраўднасці краіны Старой Еўропы з'яўляюцца сёння спажыўцамі перапрацоўкі нафтапрадуктаў. Мэтай беларускай палітыкі з'яўляецца пашырэнне без перашкод гэтых рынкаў, каб можна было гандляваць гэтым найважнейшым з тавараў, пры поўным грэбаванні заклікаў, напрыклад, Рады Еўропы за ўвядзенне мараторыя датычнага смяротнага пакарання.

У час дыскусіі прагучалі галасы з залы:

— Еўропа для Беларусі нічога не зробіць: на Польшчу ёй напляваць, а на вас тым больш. Не майце ніякіх ілюзій, Еўропа не хоча аб вас памятаць. Вы для яе толькі праблема.

Узяла голас таксама журналістка з Францыі:

— У нашай краіне практычна ў СМІ не гаворыцца аб Беларусі. Хіба што здарыцца нейкая трагедыя.

Голас у гэтай частцы круглага стала ўзяў таксама Дзмітрый Бандарэнка:

— Перад парламенцкімі выбарамі я адназначна выступаў за іх байкот. Калі б яшчэ ў лютым усе выказаліся за байкот, дык палітвязні былі б звольненыя.

Марына Адамовіч спаслалася на даныя нядаўніх даследаванняў беларускай грамадскай думкі:

— Аж 46 працэнтаў беларусаў задэкларавала гатоўнасць да эміграцыі. Сярод шматлікіх пануе думка: „Я не падтрымліваю рэжым, ды большасць — так". Шмат людзей у Беларусі здзіўляецца, што хтосьці з палітычных яшчэ сядзіць у турме.

На канферэнцыі на хвіліну паявіўся былы кандыдат на прэзідэнцкіх выбарах Алесь Міхалевіч, пасля зняволены, а цяпер прабываючы ў эміграцыі. Мы спыталіся ў яго пра ацэнку выбараў і паслявыбарчыя спадзяванні:

— Выбары ў ста працэтах прайшлі згодна з тым чаго чакалася. Выбраны ўсе тыя, якія павінны былі. Як я прадбачваў, ніхто з апазіцыі не прайшоў. Лукашэнка з'яўляецца прэзідэнтам з падтрымкай дэпутатаў палаты і ведае, якую сілу яму гэта дае. На жаль, фактычна мірнага выхаду з гэтай сітуацыі няма. Будзем чакаць, калі наменклатура, людзі побач Лукашэнкі, самі паўстануць і для іх саміх сітуацыя стане нявыгаднай. На жаль, народ у такіх краінах як Беларусь мала што мае сказаць. ЕС павінен працягваць цяперашнюю палітыку: караць за прымяненне рэпрэсій і ўзнагароджваць, калі б палітвязні выпускаліся на свабоду.

*(працяг — праз тыдзень)*

## http://elite.wkn.by

Чым далей у гісторыю адыходзіць якая-небудзь з'ява ці падзея, ці нават нейкі перыяд у жыцці краіны, тым больш рамантычным і натхняльным да нейкай высакароднасці ён падаецца. У беларускай гісторыі гэта, несумненна, час існавання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (ВКЛ). Некаторыя лічаць яго залатым векам для Беларусі — у часы гэтай дзяржавы да нас прыйшло друкаванае слова, з'явілася непаўторная архітэкутура, жылі выдатныя людзі — Францішак Скарына, Сімяон Полацкі, Мікола Гусоўскі і многія іншыя. Таму не дзіўна, што ВКЛ для шмат каго з творчых асоб з'яўляецца свайго роду крыніцай, з якой яны жывяцца, ствараючы ўжо нешта сваё альбо вывучаючы даўніну.

Адным з прыкладаў такіх адносін да ВКЛ з'яўляецца сайт „Вялікае Княства", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://elite.wkn.by**. Называецца ён „Вялікае Княства. Эліта — WK Elite" і з'яўляецца адным з праектаў, зрэалізаваных пад ідэяй „Вялікага Княства". Аб другім ідэйна падобным сайце, які мае навінную накіраванасць, пісалі мы ў папярэднім нумары „Нівы".

Сайт „элітарнага" „Вялікага Княства" падаецца больш мультымедыйным — тут і фотаздымкі, і відэасюжэты. Пры гэтым колькасць рубрык не надта адрозніваецца ад яго навіннай версіі. Акрамя галоўнай старонкі, уверсе выяўлення маецца выйсці да „Летапісе", „Асоб", „Грамадства", „Гісторыі" і „Культуры".

Паколькі апошнім часам абодва сайты „Вялікага Княства" не надта часта абнаўляюцца, то ў „Летапісе" можна знайсці толькі артыкулы, што тычацца найпазней снежня 2010 года. Пры гэтым, канешне, яны вельмі насычаны інфармацыяй і з большага з'яўляюцца арыгінальнымі тэкстамі.

Старонка „Асобы" — гэта расповеды пра людзей, на якіх варта звярнуць увагу з пункту гледжання іх дачынення да беларускасці. Сярод іх былы пасол Швецыі Стэфан Эрыксан, беларускі паляк Аляксандр Стральцоў-Карвацкі, колішні эстонскі беларус Лявон Валуй і музыкант Лявон Нарушэвіч.

Значна больш насычана артыкуламі старонка „Грамадства". Там змешчаны аналітычныя і публіцыстычныя тэксты пра ўсё, што так ці інакш тычыцца беларускага грамадства, прычым незалежна ў якой краіне гэтае беларускае грамадства жыве — Беларусі, Польшчы ці Злучаных Штатах Амерыкі.

Для сайта „Вялікае Княства" было б ненатуральна, калі б рубрыка „Гісторыя" мела невялікае напаўненне. Таму колькасць анонсаў гістарычных расповедаў там сягае пяці старонак. Там ёсць тэксты пра „беларускага Фаўста" — Марціна Мікалая Радзівіла, пра галадамор у Беларусі (1932-1934 гг.), пра вядзьмарскія працэсы ў Вялікім Княстве Літоўскім, пра менскія таямніцы, пра Францішка Скарыну, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і іншае.

Рубрыка „Культура" падзяляецца на тры падрубрыкі — „Літаратура", „Мастацтва" і „Музыка". У першай, дарэчы, змешчаны артыкулы, што тычацца кніг, выдадзеных рэдакцыяй „Нівы" — „Беласточчына ў пасляваенны час", „Царская трызна", „Белы конь". У „Мастацтве" расказваецца пра мастака Мсціслава Дабужынскага, жывапісца Мар'яна Богуш-Шышку, касцюмы, што насілі ў ВКЛ часоў князя Вітаўта.

Натуральна, такі высакародны сайт мае персаніфікацыю яго стваральнікаў і ідэйных натхняльнікаў. Аб іх распавядаецца на старонцы „Аўтары", выйсце на якую месціцца ў ніжнім правым вугле цэлага выяўлення.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## БЕЛАРУСІ
## С к а р б ы

### Валеўская жамчужына

Ёсць храмы, якія ўражваюць сваёй велічнасцю і манументальнасцю, ёсць такія — якія прываблiваюць пышнасцю формаў і багаццем аздобы. А ёсць такія, прыгажосць якіх цяжка апісаць з дапамогай архітэктурных тэрмінаў і слоўных эпітэтаў — настолькі яны арганічныя і натуральныя ў навакольным асяроддзі. З ліку іх царква ў Валеўцы на старадаўняй Наваградскай зямлі. Гэта адзін з найбольш старых драўляных храмаў на беларускай зямлі, каштоўная перліна архітэктурнай спадчыны. Стаіць царква па левым баку на шляху, што вядзе на чароўнае возера Свіцязь, аддаленая ад жылой забудовы. Царква пры самай дарозе, на пагорку, а перад ёй растуць дзве бярозы. Падымацца трэба па стромых прыступках.

Летапісных звестак і гістарычных крыніц пра заснаванне паселішча Валеўка не захавалася. Як мясцовасць на рацэ Нёўда яна згадваецца ва ўспамінах Фёдара Еўлашоўскага пад 1602 годам. Храм быў пабудаваны ў 1685 годзе з дрэва як Троіцкі касцёл кляштара дамініканцаў, што быў заснаваны паводле фундацыі берасцейскага ваяводы Стэфана Курча. Першапачаткова ён меў рысы стылю барока. У 1832 годзе кляштар быў скасаваны, а яшчэ праз пяць гадоў храм стаў праваслаўнай Петрапаўлаўскай царквой. Мястэчкам тады валодалі Незабытоўскія. Апошняя перабудова адбылася ў 1870-х гадах, з таго часу царква істотна не мяняла свайго аблічча. Толькі ў трыццатыя гады XX стагоддзя да яе была далучана трох'ярусная званіца. Перыядычна царква мяняе колеры, відаць, сучасныя фарбы, насуперак навязлівым рэкламам, зусім нетрывалыя. У храме зараз знаходзіцца некалькі старадаўніх ікон, а двух'ярусны іканастас аздоблены разьбой з пазалотай. Уладзімір Караткевіч пісаў, што тут былі іконы працы вядомага расейскага мастака Віктара Васняцова.

Паблізу сучаснай Валеўкі ажно да Другой сусветнай вайны была сядзіба з назвай Чамброў. Гэтым фальваркам у XIX стагоддзі валодала сям'я Узлоўскіх. Анеля Узлоўская стала хроснай маці Адама Міцкевіча. Знакаміты літаратурны маёнтак Сапліцова з „Пана Тадэвуша" аўтарства славутага паэта — у рэчаіснасці якраз колішні Чамброў. Да нашага часу захавалася фамільная капліца, якую пабудавалі апошнія ўладальнікі сядзібы Карповічы.

У наваколлі Валеўкі археолагі знайшлі некалькі помнікаў даўніны — курганны могільнік, стаянку. А самым каштоўным з'яўляецца гарадзішча ранняга жалезнага веку X-VI вякоў да нашай эры. Называецца яно гара Радагошча. Гэта месца на значным узвышэнні, з якога вока радуюць маляўнічыя далягляды. На Радагошчы, якая ўжо ўключана ў турыстычныя маршруты, было галоўнае паганскае капішча старажытнай Літвы. Калі ўздымаешся на гэтае свяцілішча Перуна, разумееш, што больш адпаведнага месца капішчу знайсці было нельга. На гары стаяць таўшчэзныя старыя дрэвы, якія адлюстроўваюцца ў возеры знізу.

Валеўцы пашанцавала на рупліўцаў сівой даўніны. Краязнаўчы музей, які быў тут заснаваны ў 1955 годзе, стварыў настаўнік Міхаіл Петрыкевіч. Пасля яго эстафету падхапіў краязнавец Уладзімір Урбановіч, які жыў тут і працаваў да самай смерці. Непадалёк царквы мясцовыя могілкі, дзе ён пахаваны — на магіле помнік з беларускамоўным надпісам. Родам з Валеўкі і шэраг іншых цікавых асоб. Дадам, што сюды часта прыязджалі многія беларускія пісьменнікі і руплівцы роднага слова — Якуб Колас, Уладзімір Калеснік, Фёдар Янкоўскі, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль... Наваколлі тут сапраўды надзвычай паэтычныя.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Гран-пры для «Цаглінак»



Памятны здымак арганізатараў агляду з «Цаглінкамі». Найстарэйшы член калектыву 102-гадовы Пётр Юшкевіч сядзіць трэці злева.

Тэкст і фота Віктара БУРЫ

**Фальклорны калектыў «Цаглінкі» са Старога Ляўкова Гайнаўскага павета быў заснаваны ў 1976 годзе пры Керамічным заводзе, якім кіраваў тады Канстанцін Майсеня. За гэты час самадзейныя артысты далі шмат канцэртаў, пабывалі ў многіх мясцовасцях краіны і замежжа, прымалі ўдзел у шматлікіх конкурсах і аглядах. Яны заўсёды гатовы падацца ў дарогу, каб знаёміць гледачоў з беларускімі народнымі песнямі.**

Апошнім часам калектыў прымаў удзел у XV Агульнапольскім аглядзе артыстычнага руху сеніёраў «АРС-2012», які адбыўся 13-16 верасня ў Быдгашчы. Мэтай агляду была прэзентацыя дасягненняў калектываў і салістаў, стварэнне калектывам пенсіянераў магчымасці канфрантацыі мастацкай творчасці, захаванне народнай традыцыі і папулярызацыя адпаведных узораў праводжання свабоднага часу. У аглядзе выступіла 59 калектываў, 19 салістаў і 2 дуэты з адзінаццаці ваяводстваў. Былі гэта лаўрэаты ваяводскіх аглядаў. Журы сцвердзіла аднолькавы высокі ўзровень выступаючых калектываў і салістаў. Найбольшую групу сярод удзельнікаў агляду складалі фальклорныя калектывы і хары. На сёлетнім аглядзе ў параўнанні да мінулых гадоў выступіла больш тэатральных і танцавальных калектываў ды кабарэ. Агулам у Быдгашчы выступіла 1197 самадзейнікаў.

Апрача «Цаглінак» Падляшскае ваяводства прадстаўлялі, між іншым, хор «Астра» з Універсітэта трэцяга веку з Беластока, хор «Вжос» з Саколкі, кабарэ «Шпілька» з Беластока, беларускі калектыў «Рэчанька» з Козлікаў.

Выступленне «Цаглінак» было часткай вялікага мерапрыемства ў Быдгашчы. Здаецца, што не памылюся, калі скажу, што паездка «Цаглінак» на агульнапольскае мерапрыемства была добрай нагодай для папулярызацыі беларускай культуры. Стараляўкоўскія самадзейнікі выканалі свой рэпертуар па-майстэрску. Цікавасць публікі выклікалі таксама беларускія нацыянальныя касцюмы. Артысты з Падляшша ў блакітна-белых і з нацыянальным арнаментам строях даказалі, што няма ім роўных. У выніку журы, якому старшынстваваў прафесар Венанцыюш Кужава, прызначыла «Цаглінкам» Гран-пры імя Тытуса Фрэліхоўскага і ўзнагародзіла альбомам, фотаапаратам і статуэткай «Лучнічкі».

На гала-канцэрце, які завяршыў чатырохдзённы агульнапольскі агляд узнагароджаныя калектывы маглі праспяваць па адной песні. «Цаглінкі» выступілі апошнімі і па-за лімітам праспявалі яшчэ тры песні. Гэта таксама было свайго роду ўзнагародай. Публіка слухала іх песень стоячы, пад бурныя, працяглыя апладысменты.

* * *

*Песні «Цаглінак» як тыя зёлкі,*
*Сэрца твае абагрэюць,*
*Зазіхацяць у нябёсах вясёлкі,*
*Свет навокал падабрэе.*

*Песні «Цаглінак» як тыя зоркі,*
*Ночку ў снах карагодзяць...*
*Ці то жар-птушка скінула пёркі,*
*Ці гэта сонейка ўсходзіць?*

*Песні «Цаглінак» як тыя пчолкі,*
*Не пасядзяць без работы.*
*Нота да ноты, слоўка да слоўка —*
*Музыкі-песень поўныя соты.*

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — грузінскую пагаворку.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

1. Васіль, беларускі пісьменнік (1924-2003) = 15 _ 16 _ 13 _ 14 _ 25 _;
2. уліваецца ў возера Балхаш = 1 _ 21 _ 22 _;
3. кофе = 19 _ 20 _ 23 _ 5 _;
4. партнёрка кума = 2 _ 29 _ 4 _ 3 _;
5. адзінка вымярэння = 32 _ 12 _ 6 _ 31 _;
6. граніца = 28 _ 27 _ 34 _ 35 _;
7. урачысты верш = 24 _ 8 _ 7 _;
8. вымяраецца ў гектарах = 30 _ 9 _ 10 _ 11 _;
9. ін'екцыя = 18 _ 26 _ 33 _ 17 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Люты, Сапега, талія, аят, зад, кантон, пан, сук, Кітай, адзенне, супоня, лес, Купала.

Рашэнне: **Пастаянны занятак не дапускае спакус**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

## 07.10 — 13.10

**(22.03. — 20.04.)** Да 8.10. адчуеш сябе дацэненым, выклічаш захапленне. Ды 6-10.10. будуць турбаваць цябе перапалохі і бяссонніца. У першай палове месяца маеш горшы настрой і здароўе. Працуючы сола здабудзеш найлепшыя эфекты.

**(21.04. — 21.05.)** 7-11.10. будзеш у знакамітай форме і маланакава пераадолееш перашкоды. На гэты час плануй найцяжэйшыя справы. Добрая форма аж да 23.10. Ды 6-10.10. чакае цябе непрыемная размова з кімсьці блізкім. У працы будзеш такі добры, што канкурэнцыя першая вывесіць белы сцяг.

**(22.05. — 22.06.)** Крыху замяшання ў сардэчных справах. Могуць паявіцца старыя грошы. У першай палове месяца будзеш мець проста алімпійскую форму. З грашыма можаш больш страціць чым здабыць, таму не рызыкуй. Засыплюць цябе новымі заданнямі, ды пакуль не чакай вялікіх прыбыткаў.

**(23.06. — 23.07.)** У кар'еры можаш зрабіць значны крок наперад. Тваёй спецыяльнасцю будуць наватарскія задумы. 7-11.10. адкрыюцца перад табою дзверы да кар'еры, зоркі памогуць у інтарэсах. У першай палове месяца лёгка цябе вывесці з раўнавагі. Стрэс можа адбіцца на тваім страўніку.

**(24.07. — 23.08.)** У пачуццях будзе лічыцца толькі жарсць. Пры табе немагчыма спакойна глядзець тэлебачанне! Дома возьмешся за сур'ёзныя папраўкі. Грошай хопіць, хаця, вядома, будзеш наракаць, што іх мала. На працы будзеш незаменны. 7-11.10. будзеш дзейнічаць з асаблівым размахам, так як любіш. Мець высока і нічым не абмяжоўвайся.

**(24.08. — 23.09.)** Аж да 28.10. Венера сашле табе новых знаёмых, сярод якіх зможаш знайсці партнёра, калі не ў каханні, дык у інтарэсах. 8-12.10. Меркурый пільнаваць будзе тваіх фінансаў. Не бойся адважных рашэнняў, напэўна не страціш. На працы захавай асаблівую тактычнасць і далікатнасць. Дома будзеш лагодны як ягнятка. У сям'і з 7.10. можа паявіцца крыху нервовых сітуацый, з якімі справішся.

**(24.09. — 23.10.)** Узрасце твая папулярнасць. 7-11.10. разлічвай на сваю інтуіцыю, якая цябе не падвядзе. Не будзеш абмяжоўваць выдаткаў, а хутка знойдзеш магчымасць, каб залатаць дзіру ў бюджэце. Папраўіцца тваё здароўе.

**(24.10. — 22.11.)** На працы лепш дагаворышся з калегамі. 7-11.10. — час спрыяе фліртам і раманам. Пачуеш столькі кампліментаў! Ды поспех на адным полі акупіш пачуццём, што падвёў на іншым. Вялікае каханне ўжо стукае ў твае дзверы! Замужнія Скарпіёны таксама не будуць наракаць. У сям'і засяродзішся перш за ўсё на сабе.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш карыстацца вялікай папулярнасцю. Пачуеш шмат небанальных кампліментаў. 7-11.10. захопіш нават тых, хто ведае цябе шмат гадоў. Сур'ёзна падумаеш аб ашчаднасці, і аж да скупасці будзеш збіраць кожны грош ці рэч. Пакупка зямлі можа аказацца дасканалай інвестыцыяй.

**(23.12. — 20.01.)** Шмат прыемнасцей і кампанейскіх атракцыёнаў. 9-13.10. адкрыеш у сабе творчыя магчымасці і адчуеш прыліў натхнення. Наваляць на цябе шмат абавязкаў, ды ты не з такімі спраўляўся! Задбай аб добры настрой. У сям'і падрыхтуйся да змен, якія прывітай з радасцю.

**(21.01. — 19.02.)** Спадзявайся здзяйснення самых сакрэтных мараў. У пачуццях можаш станўць перад нялёгкім выбарам, на шчасце не мусіш вырашаць адразу. У сям'і можаш рыхтавацца на пару нервовых сітуацый; не старайся сілай ставіць на сваім. На працы не бяры на сябе зашмат заданняў.

**(20.02. — 21.03.)** Цвяроза ацэніш кожную сітуацыю, дзякуючы чаму твае рашэнні будуць слушнымі. На працы будзь больш гнуткім. Слухай таго, аб чым гавораць. У здароўі могуць табе дакучаць апухласць і набрынялыя ногі; еж менш солі. У пачуццях менш патрабуй, а больш здабудзеш. Аддай больш часу на свае прыемнасці. У фінансах чакае цябе поспех, толькі не папсуй усяго нейкім неабдуманым рашэннем. 6-10.10. можаш не здушыць у сабе эмоцый, і выбухнеш у найменш адпаведны момант.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# На хвалі святой камерцыі (8)

Фота і тэкст Евы СЦЕПАНЮК

В образ, калі здзейсніцца геройскі чын святога Меркурыя, недасказаны, засакрэчаны і пад аховай ночы. Наш герой з’явіцца ў Даўгамосці дзесьці глыбокай ноччу, каб там з дапамогай нябесных персанажаў разбамбіць мангольскі атрад. На пачатку ён адсячэ галаву соннаму *ісполіну*, самаму магутнаму і жахліваму палкаводцу арміі саперніка. Гібель асілка накліча смяротэльны спалох і паніку ў варожых радах. На галовы ўцякаючага ворага пасыплюцца маланкі з неба. У дапамогу нашаму рыцару з’явіцца Меркурый Кесарыйскі і *сонцаабразная* Дзева, якая асабіста будзе рукаводзіць нябесным войскам. Наш Меркурый без аглядкі перасячэ палову арміі, каб пасля, згодна з абяцаннем і прысягай, аддаць жыццё. Да яго падыдзе сын *ісполіна* і зробіць сваю справу, значыць, адсячэ галаву...



Апошняя сцэна ў некаторых варыянтах *Аповесці* адбудзецца ўжо ля святых мuроў Смаленска. Разам з усходам сонца Меркурый на момант уваскрэсне і з галавой у руцэ ступіць за муры горада, каб заявіць пра перамогу. Распаўсюдам навіны зоймуцца жанчыны, якіх увасабляе тут смалянчанка. Гэты каларытны вобраз застаўляе з дыстанцыяй, гумарам і разуменнем думаць пра фантастычны і сатканы з хрысціянскіх матываў сюжэт.

* * *

— А цяпер падрыхтуйцеся на самавіты сюрпрыз, — аб’явіў з хітрай усмешкай гід, — на моцныя ўражанні.

Словы былі выказаны ля гарадскога фантана, таму ніхто не чакаў такога звароту ў ходзе экскурсіі. Спачатку мы ішлі алеяй абсаджанай алеандрамі, пад электрычны гук цыкадаў і цвыркуноў. Мы перасяклі браму і апынуліся на... могілках. Грэчаскія могілкі напамінаюць Вялікдзень. Найперш з-за жыццярадасных фатаграфій пакойнікаў, якія глядзяць на цябе з белых мармуровых крыжоў з радасцю ў вачах. Абяцаны сюрпрыз чакаў у капліцы, дзе захоўваюцца косці пакойнікаў. Усе яны былі спакаваныя ў маленькія скрыначкі, прыаздобленныя такімі ж жыццярадаснымі фатаграфіямі.

Час пакойніка на грэчаскіх могілках абмежаваны, у найлепшым выпадку дазволяць яму праляжаць у магіле дваццаць гадоў. Пасля абавязкова належыць правесці эксгумацыю, каб тым самым саступіць месца другім прадстаўнікам роду. Дабытыя з магілы косці перахоўваюць у спецыяльных капліцах, якія напамінаюць бібліятэку.

Пераховіны вымушаны абмежаванасцю месца. Гэтая праблема найперш датычыць вялікіх гарадоў. Цягам апошніх гадоў у Афінах трэба праводзіць эксгумацыю ўжо пасля трох гадоў. Пажадана, каб рытуал праходзіў у прысутнасці сям’і, як у час першых паховінаў. На такі досвед, асабліва ў „свежым” працэсе эксгумацыі, гатовыя толькі лічаныя асобы. Іх учынак лічыцца доказам найбольшага кахання і пашаны пакойніку.

Грэкі як агню сцерагуцца крэмацыі астанкаў. Апошняя справа падыктаваная рэлігійнымі прынцыпамі.



Успенская царква ў Басценавічах на Магілёўшчыне



* * *

Пасля бою і наканаванай смерці цела пакутніка Меркурыя было занесена ва Успенскі сабор самой Багародзіцай. Астанкі былі пакладзены ў падрыхтаваны заранёў гроб, ля кліраса, побач Іконы. Каб увесь культ меў рукі і ногі, аб’явіўся яшчэ адзін цуд. Святы воін прамовіць ужо з нябёс, зноў да таго ж сціплага дзячка. Ён загадае прынесці шчыт і кап’ё і паставіць іх ля сваёй магілы. Іх задачай будзе абараняць жыхароў Смаленска перад кожнай навалай, на працягу стагоддзяў.

Цяжка сказаць, што сталася з легендарным і адзначаным кап’ём святога, які ў літаратурным творы карыстаўся мячом! Сёння найбольш вядомай святыняй з’яўляюцца сандалі Меркурыя. Звестка пра косці звычайна замоўчана. Паводле некаторых крыніц, яны знаходзяцца ў Аўраамаўскім манастыры ў Смаленску. Магчыма, апошняя справа таксама накліканая духам мастацтва. Гэтых беларускіх святых іканапісцы заўсёды паказвалі разам. Найбольш унушальны і блізкі літаратурнаму вобразу Меркурый Смаленскі на абразе з XVII стагоддзя, знойдзеным ва Успенскай царкве ў Басценавічах на Магілёўшчыне. У фігуры воіна адчуваецца шляхетнасць і далікатнасць, яго аблічча — твар анёла. На жаль, сама Басценавіцкая царква, як і памяць пра божага воіна, балюча занядбаная ў Беларусі. Тым часам у суседняй Расіі гэты святы перажывае чарговае ўваскрэсенне, яго ставяць у прыклад будучым жаўнерам. Народ таксама не мае патрэбы наракаць, паколькі ў Даўгамосці, на месцы, дзе адбылася легендарная сеч, сёння спраўляюць народна-рэлігійныя фэсты са скокамі і печанымі парасяткамі. Тут жа пастаўлена капліца, да якой прыходзяць у паломніцтве жаўнеры, каб натхніцца прыкладам святога. Аматары гісторыі і добрага смаку ў сваю чаргу ладзяць рыцарскія турніры. Месца пазначана як мемарыяльны помнік Смаленшчыны.

*(працяг будзе)*

## УВАГА КОНКУРС

### XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб’яўляюць XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

***Прынцыпы ўдзельніцтва***

1. Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:
   - **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,
   - **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з’яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).
2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.
3. Конкурсныя працы, набраныя на камп’ютары або разборлівы рукапіс у чатырох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб’ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XV Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.
4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.
5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.
6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

***Тэрміны***

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **25 лістапада 2012**г. (вырашае дата паштовага штампа).
2. Вынікі конкурсу будуць аб’яўлены ў снежні 2012 г.
3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.



ISSN 0546-1960